# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1836) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 21 ЛІПЕНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.




*Беластоцкі амфітэатр 23 чэрвеня.*

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Сонца гэнае нядзелі не паскупіла сваіх праменняў. Паўсонныя ад чэрвеньскай спякоты людзі туляліся па беластоцкім амфітэатры ў пошуках ценю. Кожны хітрун, які дадумаўся быў прывезці якое-кольвечы пітво на продаж - зрабіў добры гешэфт. 23 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры адбывалася, бадай, самая відная імпрэза Беларускага грамадска-культурнага таварыства - „Свята беларускай песні".

Беларуская песня, ці то ў фальклорным, ці ў эстрадным яе варыянце, ёсць тым немалаважным фактарам, які сведчыць не толькі пра культурную прысутнасць беларускай меншасці ў Польшчы, але і пра адметнасць тае ж культуры. Здаўна гэта разумеюць у Беларускім грамадска-культурным таварыстве ды штогадова, летняю парою, ладзяць у Беластоку фестывалі беларускай песні. Факт, што беларуская музыка прыцягвае цалкам ладныя натоўпы людзей, зразумела, здаецца, і маладое пакаленне беларускіх дзеячоў ды наладзіла свой, розлічаны перад усім на моладзь, фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". Такім то чынам маем у нашым рэгіёне дзве вялікія музычныя імпрэзы, якія не толькі што не ўваходзяць адна другой у дарогу, але, нельга гэтага не заўважыць, у вялікай меры дапаўняюцца. Кожны, каму недастаткова артыстычных уражанняў ад бэгэкатоўскага „Свята беларускай песні", мае нагоду паехаць у Гарадок ды там дарэзаацца д'явальскім гард-рокам.

Калі некалькі хвілін пасля 15-ай гадзіны на эстраду ў беластоцкім амфітэатры, пад мелодыю Данчыкавага „Каб любіць...", увайшоў дзіцячы танцавальны калектыў БГКТ, быў гэта знак, што публіцы трэба выгодна сесці. Так пачаўся фестываль. Затым, традыцыйна ўжо, узяў слова старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, які ад імя арганізатараў „Свята беларускай песні" прывітаў зграмаджаную публіку, артыстаў ды прысутных сярод публікі прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства. З вялікім гонарам, сказаў старшыня ГП БГКТ, заўсёды сустракаем на аглядах беларускай песні галаву праваслаўя на Беласточчыне біскупа Саву. Сёння прыйшлі да нас яго падначаленыя. Момант гэты вельмі важны і істотны з тае прычыны, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства здае сабе справу з таго, што калі нехта наносіць удар па праваслаўі - наносіць яго таксама і па беларускасці. І таму еднасць і супрацоўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Праваслаўнай Царквой для нас з'яўляецца адной з галоўных частак нашай праграмы.

Сваё выступленне А. Баршчэўскі закончыў на паэтычнай ноце - параўнаўшы эстраду з вялікім святочным караблём, прадставіў публіцы капітанаў, без якіх плаваць караблю нельга, гэта значыць канферансье фестывалю: вядомую дзяячку беларускага музычнага жыцця Валянціну Ласкевіч ды не менш вядомага арганізатара фестываляў царкоўнай музыкі Мікалая Бушко. Яны ўдвух вялі ўсю першую частку „Свята беларускай песні", у якой галоўным чынам выступалі лаўрэаты конкурсу „Беларуская песня - 91". Усіх выканаўцаў першай часткі было недзе пад дваццаць, таму не змагу тут кожнаму з іх адвесці належную увагу. На эстрадзе беластоцкага амфітэатра выступілі калектывы з Гарадка, Дабрывады, Дашоў, Старога Ляўкова, Гданьска, Варшавы... Шмат якім з іх акампанаваў на акардэоне нястомны Сцяпан Копа. Паколькі ўсе гэтыя калектывы заваявалі высокія месцы ў конкурсе „Беларуская песня - 91", дык вуха слухача атрымала ўсё, што самае лепшае ў беларускім музычным жыцці ў Польшчы.

( Працяг на стар. 5 )




Данута Бічэль

## МАКСІМАЎ ДОМІК У ГАРОДНІ

Новы Сьвет даўно ня новы.
Побач - сад стары кляновы
на Малой Садовай вуліцы,
вуліцы, згорбленай бабульцы,
наш, амаль вясковы домік,
як забытых вершаў томік,
як снапок валошкаў польных,
запрашае ўсіх бяздольных,
хто згубіўся ў часе нудным,
хто жыве жыццём няўклюдным,
хто ў натоўпе, нібы ў полі,
хто сяброў пя меў ніколі, -
запрашае абагрэцца
ля паэтавага сэрца.

За драўлянымі дзьвярыма
неўміручы сьвет Максіма.

**********************

## МІНСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ Ў БЕЛАСТОКУ

На запрашэнне Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" тры дні /16 - 18 чэрвеня 1991 года/ прабывала ў Беластоку дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў у складзе: **Віктар Супрунчык**, празаік, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, **Уладзімір Паўлаў**, паэт, таксама намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, і **Генадзь Дзмітрыеў**, паэт, дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. Высокапастаўленыя госці правялі сустрэчы з паасобнымі нашымі літаратарамі, наведалі рэдакцыю „Нівы" і БГКТ ды пазнаёміліся з горадам, у якім яны былі ўпершыню.

**Я. Чыквін**



*********

# РАДА НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЯЎ

30 чэрвеня ў Варшаве ў памяшканні Яўрэйскага тэатра адбылося ўстаноўчае пасяджэнне Рады нацыянальных меншасцяў у Рэчыпаспалітай Польскай. Падзею гэтую папярэдзіў паўгадовы перыяд падрыхтоўчых спатканняў, на якіх прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў у Польшчы абмяркоўвалі арганізацыйна-статутны кшталт свае рэпрэзентацыі і абсяг мерытарычных пытанняў, якія патрабуюць кансультацыі і каардынацыі якраз на такім „меншасным форуме". Дзеля гісторыі адзначым, што ініцыятарамі стварэння Рады нацыянальных меншасцяў выступілі беларусы і лэмкі.

Папярэднія спатканні прыцягвалі даволі няўстойлівае прадстаўніцтва нацыянальных меншасцяў у Польшчы. З аднаго боку, гэта было выклікана цяжкасцямі ў кантактах з паасобнымі меншаснымі асяроддзямі, а з другога, справа ўскладнялася рознай ступенню самаарганізаванасці тых жа асяроддзяў. Пасля маналітнага перыяду грамадска-культурных таварыстваў разам з дэмакратызацыяй і плюралізацыяй грамадска-палітычнага жыцця ў краіне некаторыя змены наступілі і ў арганізацыйных формах руху нацыянальных меншасцяў. Паявіліся новыя арганізацыі, актывізаваліся меншасці, якіх раней „афіцыйна не было" /найбольш яскравы прыклад гэтаму - немцы/. Кожная меншасць па-свойму вырашала праблему ўнутранай каардынацыі паміж рознымі плынямі грамадска-культурнай і палітычнай актыўнасці ў сваім асяроддзі. Працэс гэты не заўжды быў хуткі і лёгкі /хопіць прыгадаць тут спрэчкі і непаразуменні, якія ўзнікалі ў сувязі з аб'яднаннем нашага асяроддзя ў Радзе беларускіх арганізацый/. Падобныя каардынацыйныя структуры створаны былі немцамі і яўрэямі. Украінцы рэарганізавалі свой рух найхутчэй з усіх меншасцяў, ствараючы ў пачатку 1990 года Аб'яднанне ўкраінцаў у Польшчы, але па не зусім ясных прычынах не ўдзельнічалі ні ў падрыхтоўцы канцэпцыі Рады нацыянальных меншасцяў, ні ва ўстаноўчым пасяджэнні 30 чэрвеня. Праблема ўнутранай каардынацыі руху стаіць перад лэмкамі, сярод якіх выразна вызначыліся дзве плыні; адна з украінскай арыентацыяй, другая - самасцвярджэнне лэмкаў як асобнай нацыі.

Усе вышэй названыя акалічнасці дужа замаруджвалі поступ працы над стварэннем Рады, таму з немалой прыемнасцю даводзіцца адзначыць настойлівасць і ангажаванасць у працы Пятра Юшчука, які спачатку выступаў ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, а потым як старшыня Рады беларускіх арганізацый. Ён жа, па сутнасці, быў аўтарам праекта РНМ, які з невялікімі папраўкамі быў прыняты ўсімі бакамі. Варта сказаць некалькі слоў пра прынцыпы членства ў Радзе і яе мэты. Рада з'яўляецца органам кансультацыйна-каардынацыйнага характару. Членства ў Радзе могуць набыць усе нацыянальныя меншасці ў Польшчы праз сваіх прадстаўнікоў, выбраных ад арганізацый /у колькасці 6 чалавек ад аднае меншасці/, якія маюць статус юрыдычнай асобы. З'езд гэтых прадстаўнікоў з'яўляецца найвышэйшай уладай Рады, паўнамоцнай прымаць ухвалы. Паміж з'ездамі працаю Рады кіруе Управа /5-11 чалавек/, у якой статутна замацавана права прадстаўніцтва прынамсі аднае асобы з кожнай нацыянальнай меншасці ў Радзе. Агульна кажучы, мэтаю Рады з'яўляецца выпрацоўванне супольных для ўсіх нацыянальных меншасцяў поглядаў і каардынацыя намаганняў дзеля вырашэння шматлікіх праблем на шляху да поўнага выяўлення і развіцця свае нацыянальнае тоеснасці згодна з прынцыпамі, акцэнтаванымі ў адносінах да нацыянальных меншасцяў цывілізаваным светам.

Устаноўчае пасяджэнне ў Варшаве згуртавала прадстаўнікоў пяці нацыянальных меншасцяў у Польшчы: беларусаў, яўрэяў, караімаў, лэмкаў і немцаў. Была выбрана Управа РНМ лікам у 5 асоб: Мікалай Алексяюк /ад беларусаў/, Міхал Фрыдман /ад яўрэяў/, Каміла Трачык /ад караімаў/, Павел Стэфаноўскі /ад лэмкаў/ і Фрыдрых Петрах /ад немцаў/. Старшынёю Рады стаў М. Алексяюк, доктар фізічных навук з Варшавы. Былі выбраны таксама „функцыйныя асобы" ва Управе: сакратар /Ш. Пілецкі/, скарбнік /П. Юшчук/, канцлер /Я. Максімюк/. Рада на сваім першым пасяджэнні прыняла тэкст пратэсту супроць пагрому цыганоў у Млаве 26-27 чэрвеня 1991 г.

**ЯН МАКСІМЮК**

✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Рэчыпаспалітай стварыў Дзяржаўную выбарчую камісію**, у склад якой уваходзяць дзевяць суддзяў (па трох з Адміністрацыйнага і Вярхоўнага судоў і з Канстытуцыйнага трыбунала). Старшынёю камісіі выбраны суддзя Канстытуцыйнага трыбунала **Анджэй Цоль.**

**Сейм адхіліў** трэцюю спробу Прэзідэнта РП увесці некаторыя змены ва ўхваленае раней палажэнне аб парламенцкіх выбарах.

**Савецкі бок закрыў для пешаходаў і веласіпедыстаў пункт у Агародніках** на літоўскай граніцы. Агароднікі былі адзіным на ўсходняй граніцы пунктам, які можна было перасякаць пешшу. Гэтаю магчымасцю карысталіся турысты, якім не ўдалося забраніраваць месцы ў цягніках і аўтобусах.

**Беласточчына прымае на адпачынак беларускіх дзетак,** пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Адпачынак арганізуюць улады Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла. У ліпені з адпачынку, арганізаванага праваслаўнымі прыходамі, карыстаецца 180 дзяцей, якія прабываюць у Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Райску, Саколцы, Гарадку, Міхалове, Заблудаве і Ласінцы. Каталіцкія парафіі прынялі 109 дзяцей. Прабываюць яны ў сем'ях у Саколцы, Моньках і Беластоку.

**І зноў бастуе камунікацыйнае прадпрыемства** ў Беластоку. Гэта ўжо трэці страйк на працягу двух месяцаў. Бастуючыя пратэстуюць супраць падзелу прадпрыемства на некалькі суполак. На час страйку працуе аварыйная камунікацыя, г.зн. аўтобусы выязджаюць на некалькі гадзін у дзень, каб давезці людзей на работу і з работы.

**Беластоцкая медыцынская акадэмія** падтрымоўвае кантакты з Інстытутам фізіялогіі Універсітэта Гамаматсу ў Японіі. Яго дырэктар праф. **Акіказу Такада** плануе стварыць фонд дапамогі Акадэміі, а пакуль што дапамагае ў вядзенні навуковых доследаў. Сенат Медыцынскай акадэміі прысвоіў праф. А. Такада званне доктара hono-ris causa.

**Таварыства палякаў, пацярпеўшых ад III Рэйха,** змяніла сваё памяшканне.Зараз размяшчаецца яно на вул. Браніцкага 9 (раней вул. Леніна) у пакоі 58 (IV паверх). Бюро працуе штодзённа апрача суботы, у гадз. 8 - 15, тэл. 412-212, унутраны 235.

**Пашпартнае бюро**, якое раней знаходзілася ў структуры паліцыі, ад 7 красавіка падлягае Ваяводскай управе. За гэты час у Беластоцкім ваяводстве бюро прыняло 14 тысяч наведвальнікаў.

**У канцы I паўгоддзя зарэгістравана 1574,1 тысяч беспрацоўных,** што складае 8,4 працэнта ўсіх працуючых.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**✻ Ад шчырага сэрца - аб прабыванні чарнобыльскіх дзяцей у Беластоку.**

**✻ Мінулае і сённяшні дзень Ялоўкі.**

**✻ Цуд у Белавежы.**

**✻ Кнігарня ў Гарадку.**

**✻ Аб беларускіх справах на міжнароднай канферэнцыі ў Любліне.**

**✻ Працяг беластоцкіх успамінаў Масея Сяднёва.**

# У СЕЙМАВАЙ КАМІСІІ АБ БЕЛАРУСАХ

Апошнія - гістарычныя! - эканамічна-палітычныя ды грамадскія змены ў краінах Усходняй Еўропы вынеслі на паверхню жыцця як бы састарэлую праблему нацыянальнага існавання і міжнацыянальных суадносін. Але зараз - у востра драматычнай форме, таму што пасля адыходу ад марксісцкай ідэалогіі і сілавой камуністычнай сістэмы згортвання, анігіляцыі нацыянальнага пытання, пачаўся працэс адваротны - амаль стыхійна-выбуховага яе разгортвання.

Цяперашняя вось спроба прыспешанага самавызначэння свайго шляху развіцця не толькі Польшчы, але й Беларусі, Літвы, Украіны вымагае новага пагаднення, падпісання паміж імі двухбаковых кантрактаў, якія абмяжоўвалі б амбіцыі палітыкаў ды гарантавалі свабоду жыцця і дзеяння людзям незалежна ад іх грамадзянства, веравызнання і палітычных сімпатый.

Польскія парламентарыі ў рабочых камісіях ужо дыскутавалі над набалелымі польска-ўкраінскімі справамі. А 26 чэрвеня сёлета ў Сейме на супольным пасяджэнні Komisji d/s Mniejszości Narodowych i Komisji d/s Polaków zagranicą ішла гаворка таксама аб даволі скамплікаваных і штораз канфліктуючыхся польска-беларускіх праблемах. Завязкі нацыянальнага напружання паяўляюцца і расцвітаюць пышным цветам, як паказала і гэтая сустрэча, асабліва хутка ў этнічных меншасцях - у асяроддзі палякаў у Беларусі ды ў асяроддзі беларусаў у Польшчы. Невыпадкова ў Сейм, на тую нараду, запрасілі прадстаўнікоў гэтых меншасцяў: Т. Малевіча, старшыню Аб'яднання палякаў у Беларусі, і М. Дабрыніна, старшыню Аб'яднання палякаў імя Р.Траўгута ў Бярэсці, і ад нас - В. Стахвюка, сакратара ГП БГКТ і каардынатара БДА, Я. Чыквіна, старшыню Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", П. Юшчука, старшыню Рады беларускіх арганізацый у Польшчы, ды А. Баршчэўскага, старшыню БГКТ.

Члены ўспомненых парламенцкіх камісій ды іншыя высокія функцыянеры польскага палітычнага і адміністрацыйнага жыцця ўважліва слухалі дыскутантаў - найчасцей запрошаных гасцей, і час ад часу прабавалі гасіць рэплікай ці каментарыем успыхваючае полымя непатрэбных і неабгрунтаваных спрэчак. Бо, на жаль, усю энергію канцэнтравалі госці на інцыдэнтальных праявах нацыянальных крыўд і сваіх арганізацыйных недахопаў.

Нас, прадстаўнікоў беларускага насельніцтва ў Польшчы, непрыемна ўзбуджалі Малевічавы прыдзірлівыя нараканні на Беларусь і просьбы да сваіх суродзічаў у Варшаве ісці ім з больш радыкальнай дапамогай. О, бедная мая Беларусь! Ты сама ледзь жывая, робіш толькі што першыя крокі пасля рэанімацыі, яшчэ свайго голасу не можаш вымавіць ад болю душы - а ўжо ад цябе патрабуюць, цягнуць на публічны суд... Ці маюць палякі ў Беларусі маральнае права іменна зараз дамагацца ад яе, так сказаць, нармальных рэакцый на іх шумнае выройванне? Ці маюць?! Пры гэтым спасылаюцца яны на тое, што нам, маўляў, беларусам у Польшчы, жывецца лепш і гарантавана больш. Але ці так яно ёсць на самай справе?

Калі глянуць на суадносіны цэлага /Польшча/ і часткі /беларуская меншасць у Польшчы/, дык тут аж надта выразна - ад пачатку, ад трыццаці пяці гадоў - не захоўвалася адпаведная сіметрыя: у штодзённай жыццёвай практыцы мы вельмі выразна адчувалі і адчуваем, што прапорцыі карыстання з правоў чалавека, з правоў грамадзяніна былі для нас і ёсць парушаны. І на гэтай крыўднай для нас асіметрыі пабудаваны шматбаковыя адносіны палякаў да нас і - што ўтойваць - нашы псіхалагічныя адносіны да палякаў. А

( Працяг на стар. 4)

# БЕЛАРУСКІ UNDERGROUND У ВАРШАВЕ

Што такое беларускі underground?

Сам тэрмін з'яўляецца англійскім перакладам слова падполле. У мастацкім свеце адносіцца да тых артыстаў, творчасць якіх не змяшчаецца ў канонах афіцыйнага мастацтва /чытай: сацрэалізму/. Ёсць сярод іх такія, якія паканчалі школы і мастацкія акадэміі, ёсць і такія, што нічога не закончылі. У розных узростах, на розных пасадах. Звязаў іх супрацў маляваць плавільшчыкаў ці калгаснікаў за працай, салдат або правадыроў народа. Асаблівымі прыкметамі мастацкага падполля афіцыйная крытыка лічыць: касмапалітызм, абыход нацыянальнай тэматыкі, уплыў творчасці яўрэяў /Марк Шагал, Хаім Сутэн/ і масонаў /невядома, хто/.

Такі адказ знайшоў я ў каталогу выставы „Бел-арт. Панарама беларускага мастацтва", якую паглядзець можна было ад 21 мая да 9 чэрвеня ў ліцейным цэху былой фабрыкі Норбліна, на вуліцы Жалезнай у Варшаве. Арганізатар выставы: Цэнтр сучаснага мастацтва. Прадмовы ў каталогу напісалі мастакі - удзельнікі выставы: Аляксандр Тарановіч, Андрэй Жданаў, Андрэй Плясанаў. Агулам свае работы паказалі 30 мастакоў, адзін з Брэста, трох з Віцебска, астатнія з Мінска. Гэтая выстава з'яўляецца рэхам іншай, мінскай. У 1989 годзе, у пустым, прызначаным на знос доме, была арганізавана рэспубліканская выстава „Панарама". Зачынілі яе на другі дзень, каб пасля месяца зноў адкрыць, калі справа набрала розгаласу. І вам, і тут мастакам трэба было ўпісацца ў канкрэтную прастору, арганізаваць яе.

„Выстава не прэтэндуе на прадстаўленне ўсяго сённяшняга беларускага мастацтва, - паясняе мне Рыгор Іваноў, яе камісар і ўдзельнік, - сабраліся проста сябры". Яднае іх якраз апазіцыя афіцыяльнаму, ідэалагічна слушнаму мастацтву, а таксама пошукі ўласнай дарогі. Але ў кожнага яна свая, непадобная на іншую. „На выставе паказаны карціны зусім розных аўтараў, - гаворыць Р. Іваноў, - таму агульнага, суцэльнага ўражання ад яе быць не можа. Навокал нас у апошні час столькі здарылася, так хутка ўсё мяняецца, што гэта цяжка ўявіць, упарадкаваць. І гэтыя змены стараліся зафіксаваць мастакі, кожны па-свойму. А калі ўжо гаварыць пра нейкую галоўную ідэю выставы, дык гэта найхутчэй будзе супрацьстаўленне агульнаму разбурэнню ў свеце. Лічу, што мастацтва, якое родзіцца з любові, з агульначалавечых вартасцяў, можа служыць паразуменню і яднанню паасобных людзей і цэлых народаў."

Мы з жонкай былі адзінымі, хто ў той час блытаўся па велізарным, запоўненым карцінамі і пылам ліцейным цэху фабрыкі Норбліна. Нават святло давялося запальваць выключна для нас. Можа, мы трапілі туды ў такі час, але ж субота, добрае надвор'е... Справа ў рэкламе, а хутчэй у яе недахопе, пацвердзіў мае здагадкі Рыгор Іваноў. Можна мець самыя вялікія ідэі, цудоўныя задумы, толькі што з іх, калі няма імі з кім падзяліцца.

Выстава ў Варшаве была вялікім шанцам для беларускіх мастакоў з г.зв. беларускага артыстычнага падполля, каб паказацца. Не ведаю, ці яна выканала сваю ролю.

**Мікола Ваўранюк**



*Уладзімір Вішнеўскі, Малая арка. 1987, 63 х 50 см, афорт.*

***

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

*Каб чытач мог зразумець сёння, аб якіх падзеях са свайго жыцця ўспамінае Масей Сяднёў, выдатны беларускі эміграцыйны паэт, празаік, перакладчык і шматгадовы (1959-1983) выкладчык універсітэта Індыяна ў ЗША, трэба даць пару слоў паяснення наконт лёсу самога аўтара.*

*Масей Сяднёў, нар. у 1913 годзе ў вёсцы Мокрае Магілёўскай вобл., пасля сканчэння сярэдняй школы ў 1932 годзе паступіў у мінскі Вышэйшы педагагічны інстытут на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне, дзе й адкрыўся яго паэтычны талент. У гадах 1934-36 у розных перыядычных выданнях з'яўляюцца яго вершы, якія адразу звяртаюць увагу грамадскасці.*

*Аднак у 1936 г. НКВД старанна сфабрыкавала т.зв. справу беларускай нацдэмаўшчыны, аб чым М. Сяднёў распавядае ў аўтабіяграфічнай аповесці „Раман Корзюк". Між іншым, так: „Беларускае НКВД перастаралася: у пагоні паказацца перад Масквой перадавым НКВД у змаганні з нацыяналістамі, яно агаліла Беларусь, пасадзіўшы за краты большую палавіну ейных нацыянальных кадраў, найперш пісьменнікаў, паэтаў, крытыкаў, гісторыкаў, географаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, навуковых працаўнікоў, што займаліся беларусазнаўствам, работнікаў наркомасьветы, артыстаў, працаўнікоў кіно і г.д.. Беларусь была падмецена жорсткай мяцёлкай, ачышчана ад уяўных нацыяналістаў. Не пашкадаваная была і маладая зьмена - тут беларускае НКВД бачыла ці не самую галоўную небясьпеку, і ў выніку пацярпела вялікая часьціна студэнцтва. Дастаткова было пачуваць сябе беларусам, як табе прышчаплялася кляймо нацыяналіста. Асабліва пацярпелі педагагічныя навучальныя ўстановы, што рыхтавалі маладыя нацыянальныя кадры, перад усім настаўнікаў для пачатковых і сярэдніх школаў. Гэтыя ўстановы былі разгромленыя".*

*Разгромлена было літаратурнае аб'яднанне „Узвышша". Ягоныя творцы былі абвінавачаны ў буржуазным нацыяналізме. У лік беларускіх буржуазных нацыяналістаў трапляе ў той час і Масей Сяднёў. Восенню 1936 г., студэнт чацвертага /апошняга/ курса Вышэйшага педагагічнага інстытута быў арыштаваны і пасля /ліпнага/ суда высланы на Калыму.*

*Але, як піша сам аўтар у згаданай аповесці, адзін з адвакатаў, „член Прэзідыюму Вярхоўнага суду СССР, знайшоў у справе нашых хлопцаў /.../ цэлы шэраг парушэнняў працэсуальнага характару і на падставе гэтага дамогся адмены прыгавору беларускага Вярхоўнага суду. Мелася справа быць перагледжанай нанава.../.../ І каб перагледзець справу, спатрэбілася во прывезьці іх /зняволеных, з Калымы ў Мінск, у тым ліку і М. Сяднёва - допіс мой/ назад сюды, дзе іх судзілі".*

*Тут іх, выцярпеўшых ужо Калыму, знясіленых і няшчасных, заспела II сусветная вайна. Іх канваіры прабавалі яшчэ калонамі гнаць. І аднойчы „на світанку мы прыкмецілі - вышкі пустыя. Варта нас пакінула і вароты адчыненыя - ідзі, куды хочаш".*

*І Масей Сяднёў, спазнаўшы „райскія" лагоды савецкага ладу, пайшоў на Захад, у напрамку Польшчы. Вось аб гэтым „Беластоцкі сшытак".*

**Ян Чыквін**

## МАЯ ПЕРШАЯ ПРАПІСКА НА ЗАХАДЗЕ

Пасьля Любліну, Роўны, Брэсту, наш транспарт спыніўся ў Беластоку на таварнай. Сказалі, будзе стаяць чатыры гадзіны. У мяне ў руках - адрас Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку. Я хачу пайсьці ў горад знайсьці тое „Аб'еднаньне," але мяне ня пушчае канваір. Я бяру тады, як і жанчыны з нашага транспарту, вядро - быццам іду да калонкі па ваду, - але канваір крычыць на мяне: „Zurück!" Жанчын пушчае, а мяне - не. Ды зьмяняецца канваір. Бяру зноў вядро - іду па ваду, і канваір гэтым разам нічога не гаворыць - пушчае. Як мага, сьпяшаюся ў горад: цягнік можа пайсьці хоць калі, а ў мяне-ж на ім бацька і сястра, і я магу разлучыцца з імі.

Насустрач нейкі пан. Пытаюся ў яго, дзе такая, а такая вуліца. Той адказвае мне - няма такой вуліцы ў Беластоку. Паказваю яму адрас, назву арганізацыі, а ён па-польску: „To było, a teraz nie ma". У роспачы бягу далей. Пытаюся ў чалавека ў зашмальцаванай у мазут куртцы. Той ськіроўвае мяне па адрасу. Яшчэ колькі разоў пытаюся ў сустрэчных. Нарэшце, я каля мураванага, пабеленага двухпаявярховага будынку /дальбог, ня памятаю ўжо, якая гэта вуліца/. Заходжу ў браму на двор. Бачу старога чалавека - стоража. Той кажа мне, няма цяпер нікога „у кумітэці".Кажа, „яны" пайшлі на абед. Ашаломлены няўдачай, пытаюся, дзе „яны" жывуць, на якой вуліцы? Кажа, ня ведаю. Глядзіць на мяне падазрона. Потым: „Старшыня вон там..."/паказвае мне рукой на ліпы, што ўзьняліся недалёка над дамамі/, але вуліцы не называе, дзе жыве той „старшыня". Неверагодна, але я бягу на тыя ліпы. Бачу - ідуць насустрач мне два панкі ў капялюшох і размаўляюць, як здалося мне, па-беларуску. У мяне не хапіла адвагі зупыніць іх: я няўпэўнены быў яшчэ, што яны гавораць па-беларуску. Не зачапіўшы іх, прайшоў паўз іх. Але апынуўшыся ззаду іх, каб пераканацца, што яны гавораць не на якой іншай мове, а па-беларуску, я забег ім наперад і, пачуўшы, што яны гавораць панашаму, прывітаўся з імі - гэта былі паэт Хведар Ільляшэвіч, старшыня Аб'еднаньня, і Тамашчык, ягоны заступнік. Я бясконца быў рады гэтай сустрэчы. Разумеецца, я тут-жа сказаў, хто я і што са мною. Ільляшэвіч, ухапіўшыся за мяне, абуджаны, пацягнуў мяне ў будынак Беларускага Аб'еднаньня. Іншы-ж джэнтльмэн ня выявіў асаблівых эмоцыяў. І гэтак - мы ў Камітэце. Пасьпешліва расказваю, што я беларускі паэт, быў засуджаны, адбываў кару на Калыме, што цяпер мяне з бацькам і сястрою вязуць у нейкі лагер, што наш транспарт стаіць у Беластоку на таварнай і што я прашу ратунку. Пан Тамашчык гаворыць Ільляшэвічу, каб я з лягеру напісаў ім, і толькі адтуль яны будуць старацца мяне вызваліць і „эвентуальна" тады змогуць узяць мяне на працу ў газэце. Ільляшэвіч-жа, наадварот, ухапіўся пісаць на машынцы па-нямецку зварот-просьбу да „фюрэра" транспарту, каб мяне, як цэннага чалавека, той адпусьціў для працы ў газэце „Новая дарога", рэдактарам якой ён, Ільляшэвіч, з'яўляецца. З

( Працяг на стар. 6 )

## У СЕЙМАВАЙ КАМІСІІ АБ БЕЛАРУСАХ

( Працяг са стар. 2 )

такіх „неадпаведнасцей" у нацыянальных справах хоць адбаўляй. Напрыклад, Польшча як суверэнная і вялікая дзяржава досыць актыўна, як вядома, не толькі палітычнымі, але і эканамічнымі сродкамі памагае сваім землякам па-за межамі, у тым ліку і ў Беларусі. Намі беларускі ўрад амаль да апошняга часу ніяк не быў зацікаўлены ў пазітыўным сэнсе.

Будаваць масты паразумення між народамі і іх часткамі, бясспрэчна, трэба. Але будаваць іх можна толькі на грунце пашаны рэалій (і той праўды, якую мы публічна ўсё яшчэ баімося вымавіць), памятаючы пра гістарычна складзеную нераўнавагу сіл, асіметрыю палітычных і гаспадарчых спраў ды шмат чаго яшчэ паміж Польшчай і Беларуссю; паміж палякамі ў Беларусі і аднасінамі да іх урада Польшчы ды ўрэшце паміж беларусамі ў Польшчы і аднасінамі да нас палякаў і ўрада Беларусі.

Сустрэча закончылася прыняццем пастановы стварэння міжпарламенцкай групы, якая - пасля апрабацыі Прэзідыума Сейма - будзе развіваць ідэю супрацоўніцтва, супольна з дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР, між згаданымі нацыянальнымі меншасцямі ў Польшчы і Беларусі.

/яч/



### СТРАСЦІ ПА „БАЛДЗЕЮ"

Нядаўна гасцяваў у Беластоку купалаўскі тэатр з Мінска са спектаклем „Страсці па Аўдзею". Паглядзеўшы яго, дазволю сабе на пэўныя ўласныя рэфлексіі.

Купалаўскі тэатр ёсць вядучым у БССР. Народная драма „Страсці па Аўдзею" на аснове Уладзіміра Бутрамеева („Крык на хутары") у пастаноўцы выдатнага рэжысёра Валерыя Раеўскага мяне не задаволіла. Чаму? Даволі многа добрага пра гэты спектакль я начытаўся ў прэсе. Драма пастаўлена з размахам і быць можа на высокім мастацкім узроўні, але падзеі на сцэне ствараюць вобразы недакладнай алегорыі. У спектаклі надта многа рэлігійнай атрыбутыкі: крыжы, іконы, малітвы. Галоўны герой, Аўдзей, паказаны на манер сучаснага прадпрымальніка. Толькі ў словах пераконвае ў вартасці нажытага ўласным потам багацця. Да таго выяўляецца яго хітрасць і ганарыстасць, ды адначасова запальчывасць і неразважлівасць. Ход падзей у драме круціцца вакол стала і любоўных страсцей, а заканчваецца трагедыяй кулака. І не дзіва. Для шляхты Рэчыпаспалітай у свой час таксама трагічна закончыліся памкненні да стала і распусты. Падзеі на сцэне праходзілі надта марудна і мала з іх вынікала. Выяўляліся праўды, пераважна ўсім даўно добра вядомыя. Усе выступаючыя асобы, па-мойму, не стварылі выразных постацяў. Спектакль паказаўся не зусім займальны (прынамсі мне). Здаецца, што сам аўтар драмы і пастаноўшчыкі хацелі стварыць мастацкі вобраз трагедыі беларускага сялянства ў час маршу да „светлай будучыні", а атрымалася трагедыя ідылічнага жыцця Аўдзея (так і хочацца назваць „Балдзея") і яго сям'і.

В. Хрысцінін

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Свіран у Страблі. Мал. У. Петрука.*

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕЛЬСКУ

14 чэрвеня ў бельскім Доме настаўніка прайшла канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы на Беласточчыне, у якой, акрамя саміх настаўнікаў, прынялі ўдзел і дырэктары школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы. Канферэнцыя была арганізавана супольна Куратарыяй асветы і выхавання ў Бельску і ГП БГКТ, кіравалі ейным ходам супольна дырэктар Ян Коц і сакратар ГП Віктар Стахвюк. Канферэнцыя была прысвечана „агульнаму агляду" стану беларускага школьніцтва і некаторым аспектам ягонага рэфармавання ў будучыні.

Методык навучання беларускай мовы Тамара Русачык зрабіла аналіз кадраў у навучанні мовы: у школьным годзе 1990/91 навучанне вялося ў 2 ліцэях, 44 пачатковых школах і 5 філіяльных школьных пунктах. Навучала мове 89 настаўнікаў. Першая высноварадмет занадта „раздроблены" між паасобнымі настаўнікамі. З пункту погляду методыка эфектыўнасць і паслядоўнасць навучання значна большая, калі прадмет „прыпісаны" ў дадзенай школе аднаму або двум настаўнікам, для якіх ён з'яўляецца асноўным прадметам. На жаль, часта назіраецца сітуацыя адваротная: беларускай мове навучае настаўнік, які „за кошт" урокаў беларускай мовы „ўкамплектоўвае" патрэбны лік гадзін у тыдні. Другая справа - толькі 27 настаўнікаў мае поўную філалагічную падрыхтоўку да навучання (закончылі беларускую філалогію). Трэцяя справа - у Куратарыі няма асобы, адказнай за навучанне беларускай мовы, што не аблягчае вырашэння ўзнікаючых арганізацыйных і педагагічных праблем. Зараз клопаты з атрыманнем працы ў школе маюць два абсальвенты Кафедры беларускай філалогіі ВУ.

Інспектар ГП БГКТ Ян Мордань прадставіў статыстыку навучання беларускай мовы ў пачатковых школах на Беласточчыне і статыстыку ўдзелу школьнікаў у дзіцячых конкурсах - дэкламатарскім, тэатральным, песенным - арганізаваных БГКТ.

Васіль Ляшчынскі, дырэктар пачатковай школы н-р 3 у Бельску і адначасна старшыня камісіі па рэформе навучання беларускай мовы, гаварыў аб працы і праблемах вышэй згаданай камісіі. Пакуль што камісія працуе над папраўкамі („карэктурамі") праграмы навучання, што існуе цяпер. Праграма ўстарэла, шмат у падручніках па мове не адпавядае цяперашній рэчаіснасці. Канчатковая мэта камісіі - комплексная рэформа праграмы навучання, у якой прадбачана ўвядзенне „беларускіх элементаў" у навучанне гісторыі, геаграфіі, музыкі і пластыкі. Камісія плануе закончыць сваю працу да 1999 г. Пытанне пакуль што без адказу - дзе знайсці грошы на друк малатыражных падручнікаў?

Васіль Ляшчынскі запрапанаваў стварыць невялікую групу з беларускага настаўніцкага і культурна-асветніцкага асяроддзя людзей дзеля кантактаў з Куратарыяй і каардынацыі намаганняў у рэформе навучання беларускай мовы. Прысутныя на канферэнцыі галасаваннем вырашылі перадаць абавязак стварэння вышэй названае групы сакратару ГП БГКТ Віктару Стахвюку. Абсяг праблемаў, якімі будзе займацца гэтая група, будзе акрэслены супольна з Куратарыяй.

Віктар Стахвюк гаварыў аб дамове, падпісанай прадстаўнікамі беларускіх арганізацый у Мінску з пяццю міністэрствамі Беларусі наконт адукацыі выпускнікоў ліцэяў у вышэйшых навучальных установах Рэспублікі, а таксама пра абмен групамі дзяцей у летні перыяд.

Мне асабіста здаецца, што гэты факт - магчымасць паступаць у вышэйшыя школы Беларусі без экзаменаў - пакуль што не надта добра скарыстаны ў „прапагандзе" навучання беларускай мовы на Беласточчыне. Бо сітуацыя ў краіне радыкальна змянілася. Зусім магчыма, што ў недалёкай ужо будучыні атрыманне вышэйшай адукацыі будзе звязана з вялікімі коштамі. Тады авалоданне беларускай мовай у такой ступені, якая дазваляе вучыцца ў ВНУ на Беларусі ( пры наяўнасці стыпендыі) - дае зусім канкрэтны, матэрыяльна адчувальны вынік. Беларуская мова раптам становіцца не нейкім фальклорным дадаткам, а такой жа нармальнай мовай як польская ці англійская, з якой звязаны старт у жыццё і атрыманне дыплому вышэйшай навучальнай установы. Гэта каласальны поступ і змена перспектывы для беластоцкіх беларусаў, аб чым пару гадамі назад ніхто і не марыў. І калі Беларусь сапраўды хоча дапамагчы беларушчыне на Беласточчыне, дык тут якраз можна зрабіць той важкі „прарыў", без якога мы далей будзем гібець і паступова асіміляваца. На прыкладзе гэтым відаць надзвычай ярка, што лёс беларушчыны ў Беларусі - гэта і наш лёс, ні больш, ні менш.

На заканчэнне хацелася б адзначыць прысутнасць на канферэнцыі спадарства Зоры і Вітаўта Кіпеляў з Нью-Йорка, асобаў надзвычай заслужаных у беларускім эміграцыйным руху ў Амерыцы. Спадар Вітаўт Кіпель у кароткім выступленні распавёў пра надта ж нам зразумелыя праблемы захавання беларускай нацыянальнай тоеснасці і мовы ў амерыканскім асяроддзі.

Ян Максімюк

************************************************

## ПАБАЧЫЦЬ ЗУБРА І...ЦУД!

Белавежа ўсё яшчэ прываблівае. Кожны хоча пабачыць зуброў у натуральным асяроддзі, ну, і вядома, першабытны лес, якога, на жаль, мала тут ужо асталося. У гэтым годзе, да пачатку чэрвеня ў Белавежы прабывала каля 50 тысяч чалавек, у тым ліку каля 2,5 тысяч з заграніцы, са звыш 30-ці дзяржаў.

За апошнія два гады наглядаюцца змены ў структуры белавежскага турызму. Няма ўжо натоўпу маладзёжных груп з сацыялістычных (прынамсі дагэтуль!) дзяржаў, у першую чаргу з СССР і ГДР. Яны якраз „набівалі" лікі турыстаў, выносячы свае дзяржавы ў статыстыцы на першае месца. Што датычыць СССР, то ён яшчэ першынствуе сярод наведвальнікаў, але галоўным чынам дзякуючы групам моладзі з „чарнобыльскай зоны". І трагічна, і смешна адначасова! Такім чынам, найбольш загранічныя турыстаў прыязджае з Нямеччыны, Францыі, Вялікабрытаніі, Галандыі, ЗША і Швейцарыі. Амаль цалкам адсутнічаюць турысты з даўнейшых сацыялістычных краін - месячна можна іх палічыць на пальцах адной рукі.

Абслугоўваннем наведвальнікаў зараз у Белавежы займаюцца ў асноўным два бюро - да ПТТКоўскага далучылася яшчэ ў мінулым годзе прыватнае бюро, якое называецца „Тэрэса", а вядзе яго Тэрэса Валкавыцкая. Пры прыватным бюро дзейнічае кавярня, у якой можна таксама купіць... беларускія альбомы аб Белавежскай пушчы і лясах Беларусі! Навінкай сёлетняга сезона з'яўляецца прыватная пазычальня веласіпедаў Яраслава Кісялеўскага і Генрыка Акармы (кантакт праз бюро „Тэрэса").

Той, хто хоча наняць экскурсавода, павінен заказаць яго раней. Хаця белавежскі гурток гідаў налічвае каля 70 чалавек, то з групамі ходзяць пастаянна не больш як 20. Найвялікшая бяда з экскурсаводамі, якія ведалі б іншыя мовы. Іх у Белавежы як на лякарства!

У гэтым сезоне выйшаў новы даведнік пра Белавежскі нацыянальны парк. У продажы паявіўся таксама буклет аб пушчы, які быў выдадзены некалькі гадоў назад, але не прадаваўся (было гэта ўнутранае выданне дзяржаўных лясоў і парку). Можна яшчэ купіць цікавы камплект паштовак з Белавежскай пушчы (13 штук), або каляровы плакат з зубрамі. У гасцініцы „Іва" адчыніў краму з сувенірамі Славамір Доўбыш - сын вядомага белавежскага разбяра Сяргея Доўбыша. Паявілася таксама крама з сувенірамі (у Палацовым парку) пад шыльдай ПТТК.

Супер-навінкай сёлетняга сезона ўсё-такі з'яўляецца цуд, пра які напішу ў наступнай карэспандэнцыі.

ПЁТР БАЙКО

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

( Працяг са стар. 1 )

Канцэртную частку „Свята беларускай песні" пачала Эва Ляскевіч. Што ж, выпадае тут толькі паўтарыць за Мікалаем Бушко - беластоцкім спевакам расце маладая змена. Факт гэты пацвердзіўся і ў наступным выступленні, калі маленькая Марта Драль з Васількова, у акампанеменце паловы гурту „Альбаросіка", цудоўна праспявала „Алесю". Тэмпература канцэрта павысілася, калі на эстрадзе з'явілася рэшта гурту „Альбаросіка". Хлопцы адшпарылі два „нумары": „Спі, сыночак" і „Матулю", а пасля выступлення даскочыў да іх нехта з менскага тэлебачання ды давай ім тлуміць галовы ангажамі, запісамі, відэаклiпамі і т.д. На маю думку, беластоцкі гурт „Альбаросіка" запоўніць тую пустэчу, якую пакінулі незабыўныя „Дубіны" - на Беласточчыне іх слухалі ад малога да старога. Мала гэтага. „Дубіны" выконвалі наогул фальклор - з тою толькі розніцай, што на электрычнай апаратуры. Фактычна ніколі не падскочылі па-над фальклорны ўзровень. Не хачу тут сказаць, што фальклор непатрэбны - ён неад'емная частка нашай культурнай спадчыны. Маладому беларусу, аднак жа, выхаванаму ў сценах гарадскога блёка, патрэбная перад усім сучасная маладзёжная музыка, якая спяваецца па-беларуску. Такую музыку імкнецца стварыць гурт „Альбаросіка" - хлопцы выконваюць балады, рок, блюзы... Адным словам, усё тое, што стварае нейкую канкурэнцыю для англасаксонскай маладзёжнай культуры Захаду, канкурэнцыю, якая ў змозе абараніць культурную тоеснасць маладога беларуса.

Кася Камоцкая з гуртам „Новае неба" праспявала чатыры песні замест дзвюх, якія былі ў праграме. Відаць, публіка мінулагодняга „Басовішча" да таго яе распесціла, што загадзя падрыхтавала дзве песні на „біс". Мне там падабалася, але сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк - нехта гэта бачыў - то ірваў сабе валасы, што даўся намовіцца на „Новае неба". Першую частку „Свята беларускай песні" завяршыў другі госць з Беларусі - калектыў „Світанак" з Вілейкі.

Немалою неспадзеўкай была для мяне другая частка фестывалю, у якой выступіў дзяржаўны аркестр з Менска пад кіраўніцтвам Міхася Фінберга. Калі аркестр выконваў першую інструментальную кампазіцыю, ніхто, бадай, не прадбачваў... Мне прыгадваліся вечары, калі мы да знямогі слухалі аркестры Дзюка Элінгтона і Каўнта Бэйзі. З аркестрам М. Фінберга выступалі па чарзе салісты беларускай эстрады. Выступіла таксама і Аля Дубец з Санока. „Свята беларускай песні" дасягнула свайго зеніту, няйначай, калі на эстраду выйшла чароўная Юля Скараход. Замітусіўся апошні рад публікі, у якім згуртавалася моладзь. У адзін момант высахла там скрынка піва. Памяркоўны дагэтуль відэаапаратар Багдан Сіманенка не вытрымаў і прысунуўся з камерай да самага краю эстрады. Некаторыя казалі, быццам бы Багдан да таго напіраў на эстраду, што ў канцы канцоў яна зрушылася з месца.

На заканчэнне фестывалю на эстраду ўвайшлі ўсе выканаўцы ды пад акампанемент менскага аркестра праспявалі „Люблю наш край". Публіка ўстала з месцаў.

З кожным годам фестывалі беларускай культуры, песні, ці як там яны ні зваліся б, набіраюць новы кшталт. Што новага плануецца праз год, запытаў я сакратара ГП БГКТ Віктара Стахвюка, які разам з іншымі працаўнікамі Таварыства нямала папрацаваў дзеля поспеху імпрэзы ў гэтым годзе. Віктар Стахвюк лічыць, што трэба перад усім пашыраць удзел у фестывалі прафесіянальных выканаўцаў як з Беларусі, так і з Польшчы. Людзям трэба паказаць, што беларуская культура не абмяжоўваецца адно да фальклору, але жыве і ў прафесіянальнай сферы - трэба, каб людзі пераканаліся, што беларуская культура народні з іншымі. Кожны, хто 23 чэрвеня наведаў беластоцкі амфітэатр, напэўна ўжо ў гэтым пераканаўся. Хто не наведаў - хай шкадуе.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

Фота аўтара



*Кася Камоцкая.*



*Юля Скараход.*



*Сцяпан Копа і калектыў Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ.*

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

## 18. ВІКЕНД У ЭЛЕНВІЛІ

Вікенд у гарах, на дачы спадарства Андрусішыных, быў запланаваны на 14-16 верасня. Амаль 200 кіламетраў мы ехалі на поўнач ад Нью-Йорка. Вось і мястэчка Эленвіл, горад Галены, а ўсяго праз некалькі кіламетраў, у падгорнай мясцовасці, - ужо і дача. Месца надта маляўнічае, сярод старых дубоў і не стромкіх, як у нас, а ніжэйшых і разложыстых сосен. Ля шашы - і аднечасова ў лесе, светлым і прасторным. Да купіны дрэў прымацавана шыльда: „Мой родны кут", а побач - вымашчаная пліткамі пляцоўка з драўлянымі столікамі, крэсламі і зэдлікамі.

Летам спадарыня Юля Андрусішына вельмі любіць бываць тут. Вышывае, даглядае невялічкі агародчык, пільнуе любімага сабаку Расты. Спадарыня Яніна Каханоўская, Юліна маці і Данчыкава бабуля, таксама часта прыязджае. Хатка стаіць усяго пару гадоў: спадар Паўло складаў дом з гатовых драўляных элементаў і афармляў усё ў сярэдзіне ўласнымі рукамі. Таму яно і цягнулася, але і так яшчэ колькі работы! Ледзь паспеў усё неабходнае зрабіць да прыезду гасцей.

У хатцы тры пакоі з кухняй, дзе ёсць пліта і вялікая халадзільная шафа. У пакоі тэлевізар і іншая апаратура / гэткіх рэчаў на іхніх дачах, відаць, не крадуць!/. Унізе, у бэйсмэнце, пакой для адпачынку з барам. Тут Данчыку найлепш спяваецца і іграецца. Усюды - баазерыя, стараннае афармленне. У пакойчыку, які знаходзіцца побач, вісяць старыя сямейныя фатаграфіі.

Калі Андрусішыных тут няма, сабака Расты /не дазволена яму, беднаму, жыць у манхатанскім блёку/ крыху сумуе. Але ёсць сімпатычныя суседзі-ўкраінцы, якія ў той час кормяць яго і даглядаюць хату.

Вось і цяпер, калі мы прыехалі, на пліце ўжо стаяла вялізная каструля ўкраінскага баршчу, наваранага добразычлівай суседкай. У Расты ад радасці заперла дыханне, калі ўбачыў сваіх гаспадароў.

Самаходаў за агароджай назбіралася нямала. Прыехалі: гаспадары - Паўло і Юля Андрусішыны з Данчыкам і бабуляй Янінай Каханоўскай, якая на выгляд зусім сышла б за Данчыкаву маці; Вера, Францішак і Аня Бартуль / у Антона нехта з сяброў якраз жаніўся/; сястра Юлі - Кінуся з мужам Лёнем; Рая Станкевіч; Антон Шукелайць; віленчукі - Валянцін Стэх і Міраслава Русак; пляменніца бабулі Каханоўскай - Маргарыта Пярова з Гатчыны, што каля Ленінграда; Сяржук Сокалаў-Воюш з Наваполацка; настаўніца Валя Якімовіч з сынам Русланам, загадчыца беларускага дзіцячага садзіка Галя Прыма і студэнтка Алінка Мяснікова - з Мінска, ды я - з Беластока. Назбіралася нас тут!

Частку гасцей узялі да сябе на начлег суседзі-ўкраінцы (хата іх



*На дачы ў сп. Андрусішыных: ( злева стаяць) Паўло Андрусішын, Валянцін Стэх ( за ім - Маргарыта Пярова ), Валя Якімовіч, Міраслава Русак, Данчык, Францішак Бартуль ( за ім Аліна Мяснікова ), Галя Прыма, Антон Шукелайць, Яніна Каханоўская ( з сабакам Расты ), яе зяць Лёня і дачка Кінуся; ( злева сядзяць ) Аня Бартуль, Сяржук Сокалаў-Воюш і Вера Бартуль.*

****************************************************************




( Працяг са стар. 3 )

такой паперчынай і табакай, што мне напхаў Ільляшэвіч, у кішэні, я стрымгалоў пабег назад на таварную ў страху, што цягнік той можа ўжо ад'ехаў і я болей не пабачуся з сваімі пакутлівымі бацькам і сястрою. Ды цягнік, слава Богу, усё стаяў і, як выявілася, будзе стаяць усю ноч. „Урлябісты" (нямецкія салдаты, што едуць дахаты на пабыўку, у „урляўб", на тым-жа самым транспарце) сьцерагуць нас і зьмяняюцца што дзьве гадзіны. Аднаму з іх даю зварот-просьбу ад Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, каб ён яе занёс „фюрэру", што знаходзіўся недзе ў галаве цягніка. Праз некалькі хвілін „урлябіст" вяртаецца і гаворыць мне: нікс. Аддае мне назад паперку. Тым ня менш, ужо ўначы, калі транспарт заснуў, я паказваю іншаму „урлябісту" сваю неўшанаваную паперчыну. Той прачытаў яе і нічога не сказаў. Мне падалося, што яму ўсё абыякава на сьвеце, што мая асоба абсалютна ня цікавіць яго. І я пачаў дзейнічаць - выкідваць з вагону на рампу нашыя транты. Канваір не зьвяртаў ніякае ўвагі на маю работу - сонны, хадзіў туды і назад. Ды тыя, што ня спалі ў маім вагоне, падлялі вэрхал: **ён уцякае, а нас павязуць.** Як найхутчэй я за бацьку і за сястру і - пад вагоны, што шчыльна запаўнялі ўсю таварную.

Надраніцу, калі цягнік адыйшоў, мы вынырнулі з-пад вагонаў. Нашыя транты, за якія турбаваўся бацька, ляжалі незачэпленымі на рампе. Смутак скалынуў нашыя сэрцы - рэчы дыхнулі на нас нашым **хатнім.**

Бацьку і сястру я пакінуў з рэчамі на таварнай, а сам пабег ужо знаёмай мне дарогай, у Камітэт. Там я сказаў, што мяне не адпусьцілі, а што я ўцёк. Такі ход справы не спадабаўся ня толькі Тамашчыку, а й Ільляшэвічу. Тамашчык турбаваўся за мяне, **нелегальнага**, казаў, што, як уцякач, **афіцыйна** я не магу працаваць у газэце. Абодвы яны, і Тамашчык, і Ільляшэвіч, пачалі некуды званіць, і толькі па нейкім часе Ільляшэвіч загадаў стаража паехаць са мной на таварную - забраць рэчы, бацьку і сястру. Па дарозе стораж разгаварыўся. „Старшыня, добры чалавек, толькі мае слабы характар - п'е. Ня бачыць, што ўкруг яго дзеецца і ўсе з гэтага карыстаюць. Ды ён вам паможа. Толькі дзе ён вас памесьціць? Дый неспакойна ў нас".

Ды я не зважаў, што гаворыць стораж.

Ускалі на калёсы наша рахубальле. Прывезьлі. Сьскінулі на двары. Я пайшоў да Ільляшэвіча ў ягоны габінэт. Прасторны, вялікі пакой. Ён сядзіць за сталом на крэсьле і бачу - нямоцна: круціцца на ім. Да яго прыходзяць, нешта пытаюцца, але, як здаецца мне, найбольш - каб глядзець на „бежанца". Аднаго з сваіх супрацоўнікаў ён просіць завесьці мяне ў Магістрат аформіцца. У Магістраце мяне зарэгістравалі, выдалі польскую харчовую картку „Р" і, здаецца, яшчэ нейкі дакумент. Пасялілі нас у нейкай прыземленай хібарцы, што адзінока стаяла ў зруйнаваным квартале гораду.

Гэтак вось упяршыню я быў прапісаны на Захадзе. Чакаў заўтрашняга дня, шырэйшай сустрэчы з беларусамі, той працы, якую мне дадуць.

1991

*( Працяг будзе )*

 



*У бары пад хатай Данчыку сьпяваецца і іграецца найлепш.*



*Сьпявае Сяржук. Злева ад яго Аня Бартуль, справа - Юля Андрусішына, унізе - Міраслава Русак і Валя Якімовіч.*

была шматпакаёвая, а ў кожным пакоі стаялі ложкі - відаць было, што летам гаспадары наймалі іх дачнікам, цяпер жа, па сезоне, іх хата апусцела), а частку Юля размясціла па сваіх пакоях. Але хто б там спаў!

Спачатку ўсе разбрыліся па лесе (з дарэмнай надзеяй, што ёсць грыбы), а пасля аж да 5-ай гадзіны раніцы гучалі спевы ў бары пад хаткай. Пасля добрага абеду Данчык серваваў гасцям свой любімы „бурбон"(віскі з кока-колай) і іншыя „дрынкі", бо не заўважыла я, каб нехта піў там неразведзены алкаголь. Але рэшта была свойская - людзі, песні, бясконцыя размовы пра Беларусь, Украіну, быццам бы гэтыя людзі і не расставаліся з роднай зямелькай. А мы?! Жывучы ўсё ж у больш рэальнай беларускай стыхіі, як жа часта недаацэньваем таго блізкага і дарагога, што даслоўна растайвае на нашых вачах, і трактуем яго як паветра, якога не заўважаем; уласціва патрапіць ацаніць яго вартасць толькі той, каму яго забракла.

На заўтра Данчык запланаваў хаджэнне па сцежках індзейцаў. Варта было б усё ж крыху падрамаць.

**АДА ЧАЧУГА**

*ФОТА АЎТАРА*



*„Мой родны кут" у далёкай Амерыцы.*



*Аня з Сяржуком на гамаку.*

**************************************************************************************

# НАШЫ КАРАНІ

## XIII. НА СТРОМКІМ БЕРАЗЕ БУГА

Самымі даўнімі і самымі буйнымі цэнтрамі палітычнага, вайсковага, гаспадарчага і духоўнага жыцця на тэрыторыі сённяшняга Падляшша ў IX-XIII стагоддзях былі Бярэсце /Брэст/, Дарагічын /Драгічын/, Бельск, Мельнік, Сураж, Бранск, моцна ўплывалі на паўночна-ўсходнюю частку цяперашняй Беласточчыны старажытнейшыя Гародня /Гродна/ і Валкавыеск /Ваўкавыск/. Сярод іх асаблівае месца займаў Дарагічын, і пра яго ролю ў мінулым нашай Праваслаўнай Царквы хочам цяпер паразважаць.

Драгічын, дзякуючы свайму надта ж выгаднаму палажэнню на скрыжаванні сухапутных і рачных міжнародных гандлёвых шляхоў, ужо пачынаючы з VIII стагоддзя хутка развіваўся і ў XII-XIII стагоддзях стаў вялікім асяродкам міжнароднага гандлю - у яго трапляюць купцы не толькі з пабярэжжаў Чорнага, Міжземнага ці Балтыйскага мораў, але нават з гарадоў далёкай Сярэдняй Азіі. У ім развіваюцца самыя разнастайныя рамёствы, пачынаючы ад своеасаблівага ганчарства, працягам якога ёсць сённяшняя гэтак званая чорна-сярэбрыстая падляшская кераміка, да далікатнейшых ювелірных вырабаў з золата. Гэты горад на стромкім беразе Буга стаў важным цэнтрам палітычнага і духоўнага жыцця. Наколькі духоўнае жыццё ў сярэднявечным Драгічыне было інтэнсіўнае, красамоўна сведчаць археалагічныя знаходкі. Польскі археолаг Крысціна Мусяновіч, якая шмат гадоў займалася даследаваннем Драгічына і яго наваколля, піша: „Святло на духоўнае жыццё жыхароў кідаюць шматлікія прадметы культу... Гэта розныя крыжыкі, якія ў вялікай колькасці былі знойдзены ў пасяленчых пластах горада і паселішчаў. Крыжыкі былі разнастайныя, часцей за ўсё з бронзы, паверхню іх пакрываюць простыя здобіны. Гэтыя былі аднабаковыя, нескладаныя. Да такіх трэба аднесці таксама малыя экземпляры, выробленыя з чорнага сланцу, з аднолькавымі рамёнамі, з вельмі сціплай, як правіла, арнаментацыяй, якая абмяжоўвалася вырэзбленым равочкам паўз краі крыжыка. Апрача такіх, былі таксама знойдзены большыя і багацей здобленыя, у якіх на канцах рамёнаў былі каляровыя вочкі з эмаллі. Былі і складаныя крыжыкі з заглыбленнямі ў іхніх палавінках на рэліквіі - энкалпіёны, якія насіла духавенства... Малыя, няхітра выкананыя з волава крыжыкі, як танныя і лёгкія ў вырабе, напэўна былі ў карыстанні бяднейшага насельніцтва". Апрача гэтага мноства нацельных крыжыкаў усходняга, „грэцкага" ўзору, былі знойдзены фрагменты вырэзбленых у каменных плітках іконак, а таксама паасобныя экземпляры паліваных плітак, якімі здобілі падлогу ў цэрквах, і іншыя матэрыяльныя доказы рознабаковай, багатай дзейнасці праваслаўных хрысціян у Драгічыне. Неабходна падкрэсліць, што гэтыя знаходкі паходзяць з „розных пасяленчых пластоў", як піша археолаг Мусяновіч, гэта значыць з IX-XIII стагоддзяў, а гэта ж было тады, калі на Пабужжы, як трэба меркаваць, дзейнічалі вучні і паслядоўнікі святых Кірылы і Мяфодзія, а пасля ж наступала адраджэнне хрысціянства пры Уладзіміры Вялікім і Яраславе Мудрым і іхніх нашчадках.

Паўсюдная хрысціянізацыя /крыжыкі для багатых і бедных, каменныя іконкі і інш./, прысутнасць значнай колькасці духавенства /энкалпіёны/, багаты храм /пліткі для мастацкага аздаблення падлогі/ - усё гэта паказвае, што Драгічын у XI-XIII стагоддзях быў праваслаўным горадам з некалькімі цэрквамі і напэўна знаходзіўся ў ім манастыр.

**Мікола Гайдук**



 

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

### 5. Сінонімы.1

**Сінонімамі** называюцца словы, якія маюць球 рознае гучанне, але блізкае ці аднолькавае значэнне /ад грэч. synonymos - аднайменны/, напр.: *дарога - шлях, клапаціцца - дбаць - руціцца, смутак - туга - журба, мовазнаўства - лінгвістыка.* З'ява супадзення ў значэнні слоў, якія па-рознаму гучаць і пішуцца, называецца **сінаніміяй.**

Група слоў, аб'яднаных агульнасцю значэння, утварае **сінанімічны рад**. Словы ў сінанімічным радзе групуюцца вакол аднаго стылістычна нейтральнага слова, якое называецца **дамінантай** / ад грэч. dominantis - асноўны, галоўны/. Дамінанта заўсёды стаіць на першым месцы ў сінанімічным радзе, напр.: *пах - дух - духмень - духмянасць - арамат - водар.* Сінанімічныя рады выступаюць сярод розных часцін мовы:

- сярод назоўнікаў: *падарожнік - вандроўнік - турыст,*
- сярод прыметнікаў: *цвёрды - стойкі - устойлівы - нязломны - загартаваны,*
- сярод займеннікаў: *нешта - штосьці,*
- сярод дзеясловаў: *гаіцца - загойвацца - зажываць - зарастаць,*
- сярод прыслоўяў: *мала - нямнога - крыху - троху,*
- сярод злучнікаў: *аднак - але.*
- сярод прыназоўнікаў: *аб - пра,*
- сярод часціц: *так - ага,*
- сярод выклічнікаў: *цс-с - ша.*

У сінанімічны рад могуць таксама ўваходзіць аднакарэнныя словы, якія адрозніваюцца афіксамі /прэфіксамі ці суфіксамі/, напр.: *выбачаць - прабачаць, высокі - высачэнны - высачэзны - высачэразны.* Часам сінанімічны рад можа складацца са слова і з устойлівага спалучэння слоў /фразеалагізма/ напр.: *пакараць - насварыцца - даць перцу - даць пытлю - даць прачуханца - даць у косці, многа - хоць касою касі, мала - як кот наплакаў.*

Адназначныя словы могуць уваходзіць толькі ў адзін сінанімічны рад, а многазначныя словы - у некалькі сінанімічных радоў, напр.: „Многазначным у беларускай мове з'яўляецца слова *лёгкі,* таму з рознымі сваімі значэннямі яно ўваходзіць у розныя сінанімічныя рады: а/ *лёгкі, няцяжкі, бязважкі* /напрыклад, пра партфель/; б/ *лёгкі, нескладаны, няцяжкі, просты* / пра задачу і пад./; в/ *лёгкі, спрытны, хуткі, прыгожы* / пра паходку, рухі і пад./; г/ *лёгкі, слабы, невялікі* / пра туман, мароз і пад./; д/ *лёгкі, бесклапотны* / пра жыццё, паводзіны/; е/ *лёгкі, ужыўчывы* /пра характар чалавека/; ё/ *лёгкі, манеўраны* / пра танк, гармату і пад./"2

Сінонімы ўзнікаюць у выніку таго, што для абазначэння тых самых з'яў рэчаіснасці, прадметаў, паняццяў, дзеянняў, прымет выкарыстоўваюцца:

- словаўтваральныя працэсы, у выніку якіх узнікаюць новыя словы і, ужываючыся з існуючымі ўжо словамі, уступаюць з імі ў сінанімічныя адносіны, напр. ранейшае слова *адбіцца* і пазнейшае *адлюстравацца* /даць свой адбітак на люстранай паверхні/;
- агульнанародныя словы і словы мясцовых гаворак /дыялектныя/, напр.: *авадзень - здрок, нядаўна - кагадзе;*
- агульнанародныя словы і прастамоўныя, напр.: *барабаншчык - бубнач, валасы - кудлы;*
- агульнанародныя словы і кніжныя словы, напр.: *думка - мысль, мёртвы - бездыханны,*
- словы сучаснай мовы і ўстарэлыя: напр.: *вавёрка - векша, лоб - чало,*
- уласнабеларускія словы і запазычаныя, напр.: *адмоўны - негатыўны, змена - эвалюцыя.3*

---

1. Літаратура: В. П. Красней, Лексіка і фразеалогія беларускай мовы, Мінск 1982, с. 48 - 60; В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І. М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 27 - 32; В.П. Красней, Грані слова, Мінск 1986, с. 62 - 78; В. А. Ляшчынская, Суфіксальная сінаніміка пры ўтварэнні атрыбутыўных назоўнікаў, у: Беларуская мова, вып. 5, Мінск 1977 , с. 57 - 63; З. А. Рудакоўская, Аб варыянтах і сінонімах, у: Беларуская мова, вып. 9, Мінск 1981, с. 100 - 106.

2. В. П. Красней, Грані..., с.64

3. В. П. Красней, Лексіка..., с. 50; В. П. Красней, Грані..., с. 64 - 65.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Быў ён анёлам, пакуль быў маім хлопцам. Здавалася мне, што лепшага і мілейшага хлопца ў сваім жыцці не сустрэну. Маці мая цешылася: „З ім, дзеткі, бяды не спазнаеш!" І сапраўды, дбаў ён пра мяне як умеў. Не паспею, бывала, падумаць пра новы фільм, як ён ужо прыбягаў з білетамі. Прыносіў мне кветкі, мілыя падаруначкі. Мне было вельмі прыемна, і я была амаль упэўнена, што так будзе прадаўжацца ўсё жыццё.

Мы пажаніліся, згуляўшы вельмі гучнае вяселле. І неяк хутка ўсё адмянілася. Мой каханы, відаць, лічыў, што цяпер я ўжо цалкам прыналежу яму, і перастаў старацца дагаджаць мне. Ужо не рабіў мне ніякіх неспадзяванак, не імкнуўся хадзіць кудысьці разам. Паявіліся дзеці, я была занятая. Ён не праяўляў асаблівай ахвоты да выхавання дзяцей. Усё часцей прападаў са сваімі кампаньёнамі, рэдка калі бываў у хаце. Але ўсё гэта я б яшчэ магла перанесці. Але хамства талераваць не магу.

Стаў брутальны і вульгарны. Перасоўваў мяне, як нейкую мэблю ў хаце. Я стала нулём, з якім ніхто не лічыўся: ні муж, ні нават дарастаючыя дзеці. Можна было мяне аблаяць, не слухаць, а нават і стукнуць. Што ні скажу - заўсёды кепска, што ні зраблю - усё не так. Адусюль - адны прэтэнзіі, а дапамогі ніякай. Я стала самотнай у сваім доме, і нікому да гэтага ніякай справы не было.

Аднойчы мая сяброўка са школьных гадоў, якой я часта паяраю свае таямніцы, намовіла мяне пайсці з ёю і яе мужам вечарам у рэстаран. Я была ў такой роспачы /доўга не вяртаўся мой муж/, што апранулася і пайшла з імі. Адчувала сябе дэсператкай, бо вельмі баялася, што мой муж, калі даведаецца, заб'е мяне. Не здарылася, аднак, нічога страшнага: я ўжо паспела вярнуцца і заснуць, і толькі тады прыйшоў дахаты мой муж. Ніхто яму пра мяне не данёс, а ён як хамам быў у адносінах да мяне, так хамам і застаўся. Але ў той памятны вечар я пазнаёмілася з чалавекам, які перавярнуў увесь мой свет дагары нагамі.

Мы пачалі сустракацца. У яго абдымках я ўталяла свой боль і крыўду, якія былі маім удзелам ва ўласнай хаце. Калі прыходзіла да яго, адразу свет ружавеў. Я адчувала сябе патрэбнай і каханай і забывалася пра ўсё непрыемнае, што перажывала дома. Гэты чалавек выратаваў мяне, можна сказаць, ад самагубства і за гэта я яму вельмі ўдзячная.

Сэрцайка, а я ж нядаўна ў адной з беластоцкіх газет прачытала, што „бедныя мужчыны" толькі праз сваіх кабет пачынаюць лайдачыцца. Кабеты іх да гэтага прымушаюць, уяўляеш сабе?! А ці гэта не яны кідаюць сваіх жонак у абдымкі іншых?..

**Алена**

Алена! З гэтым бывае па-рознаму. Факт, што жанчына на лайдацтва без прычыны ідзе шмат радзей, чым мужчына. Муж павінен адносіцца да жонкі яшчэ лепш, чым хлопец да дзяўчыны; гэта ж яго жонка! На жаль, у жыцці яно здараецца цалкам інакш. Жонка вельмі часта, асабліва ў шматгадовым малжэнстве, трактуецца мужам, а часам і дзецьмі, як прадмет, як мэбля, якую можна перасоўваць з месца на месца.

Як цяжка без гэтай „мэблі", пераконваюцца ўсе толькі тады, калі яе забракне. Многія жанчыны здраджваюць сваім мужам, дарэчы, дзеля таго, каб ратаваць сям'ю. Менавіта іншы мужчына ў такіх умовах дазваляе ёй перажываць.

**СЭРЦАЙКА**

*************************************************************************

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Дзве ночы запар сняцца мне вельмі нядобрыя сны. У першую ноч прыснілася мне, быццам іду я па нейкай дарозе. Чаравікі я меў на нагах прыгожыя, але раптам бачу, што іду па балоце і ўлез я ў багну, чуць чаравікі свае выцягваю з яе, а пасля ўлез у гэтае балота і па самыя калені. І так іду далей. І раптам бачу, што перада мной паявілася чыстая крыніца. Я падышоў да яе і пачаў у ёй абмывацца, чысціць свае чаравікі. На гэтым я прачнуўся.

На другую ноч мне прыснілася ізноў нейкая гразь, нячыстасць. А было так. Быццам бы я са сваёй унучкай на вакзале. Маем некуды з ёю ехаць. Бачу раптам, што перада мной ідзе мой былы настаўнік з універсітэта, прафесар-нябожчык, якому я шмат заўдзячваю. Мы ідзем з унучкай да поезда і сядаем у купэ, а гэты мой былы настаўнік заходзіць у наша купэ за намі. Раптам унучка захацела пасікаць. У кутку быў жоўты пясочак, такі, які сыплюць для катоў. Яна прысела над гэтым пясочкам і хацела ўжо сікаць, а я ёй кажу, што гэтага рабіць у купэ нельга. Узяў яе за руку і мы выйшлі на калідор. Аднак жа ў калідоры было настолькі брудна, што мы ледзь ішлі, проста слізгаліся па гразі. Поезд наш быццам бы меў ехаць у Савецкі Саюз. Астроне, што ж гэта за сон такі? Я ж фактычна нікуды за граніцу выязджаць і не выбіраюся.

**Васіль**

Васіль! Твае абодва сны прадвяшчаюць нешта не надта добрае. Аб гэтым сведчыць перш за ўсё тая гразь і балота, па якіх ты хадзіў у першым і ў другім сне. Дзякуючы гэтаму можаш спадзявацца нейкіх клопатаў, мо ў сувязі з плёткамі ці абмовай, але поезд, у якім вы ўжо сядзелі, абазначае, што табе ці тваёй унучцы пагражае небяспека.

Можа, чакае цябе нейкае іншае падарожжа, не за граніцу, бо тое, што ты бачыў спачатку прыгожыя чаравікі, а пасля вельмі гразныя, забалочаныя, можа абазначаць, што паездка, якая мела быць уданай, крыху „забрудзіцца" нейкімі клопатамі.

На пацяшэнне табе магу сказаць, што клопатаў ты пазбудзешся адносна лёгка. Аб гэтым перш за ўсё сведчыць тая чыстая крыніца, якая прыснілася табе ў першым сне і дзякуючы якой ты абмыўся ад таго бруду, у які ўлез, а таксама твой любімы прафесар-нябожчык, які сеў разам з вамі ў той небяспечны поезд, бо ён менавіта выратуе цябе ад клопатаў.

**АСТРОН**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### АЛАДКІ З БУЛЬБЫ І ТВАРАГУ

На 2 шклянкі сцертай бульбы трэба ўзяць 20 дэкаў тварагу, 3 яйкі, соль, цукар, тлушч.

Крыху выцісцуць бульбу, перамяшаць яе з тварагом, жаўткамі, соллю, цукрам і збітай з бялкоў пенай. На патэльні разагрэць тлушч, лыжкай класці цеста і смажыць з абодвух бакоў.

Падаваць са смятанай ці кіславатым джэмам.

### АЛАДКІ З БУЛЬБЫ І МОРКВЫ

На 2 шклянкі сцертай на тарцы бульбы трэба ўзяць шклянку сцертай на тарцы морквы /сырой ці варанай/, паўшклянкі малака, соль, цукар, 2 яйкі, тлушч.

Выціснутую бульбу заліць кіпячоным малаком, перамяшаць з морквай, соллю, цукрам, жаўткамі і збітай з бялкоў пенай. Разагрэць тлушч і лыжкай класці цеста на патэльню, смажыць аладкі.

Падаваць з кіслай смятанай.

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ НА ДРАЖДЖАХ

На 1 літр сцертай на тарцы бульбы трэба ўзяць шклянку мукі, 3 дэкі драждждэй, соль, 3 жаўткі, 1 лыжку цукру, тлушч.

З драждждэй і цукру падрыхтаваць рошчын і паставіць, каб ён вырас. Бульбу крыху выціснуць, перамяшаць з мукой, соллю, жаўткамі і рошчынам. На патэльні разагрэць алей або іншы тлушч, лыжкай класці цеста, смажыць аладкі.

Падаваць адразу ж з кіслай смятанай ці брусічным джэмам.

### БУЛЬБЯНЫЯ АЛАДКІ З САСІСКАМІ

На 2 шклянкі сцертай на тарцы бульбы трэба ўзяць паўшклянкі малака, 2 яйкі, соль, 6 сасісак, тлушч.

Выцісцуць крыху бульбу. Сок уліць у асобны посуд, каб асеў крухмал. Бульбу перамяшаць з малаком, яйкамі, соллю, крухмалам. На патэльні разагрэць тлушч, лыжкай класці цеста і ў час смажкі кожную аладку накрыць скрылёчкамі сасіскі. Аладкі перавярнуць на другі бок толькі тады, калі знізу яны ўжо падсмажацца.

Падаваць са смятанным ці таматным соусам.

### АЛАДКІ З ВАРАНАЙ БУЛЬБЫ

На 2 шклянкі масы з варанай бульбы трэба ўзяць 2 яйкі, паўшклянкі малака, 3 лыжкі масла, паўшклянкі мукі, соль, цукар, тлушч.

Вараную бульбу перамяшаць са збітымі яйкамі, малаком, растопленым маслам, соллю, цукрам, мукой. На патэльні разагрэць тлушч, класці лыжкай тоненькія аладкі і смажыць іх.

Падаваць з брусічным джэмам ці з падсмажанай саланінай.

Можна, падрыхтоўваючы цеста, дадаць больш мукі. Тады цеста будзе больш цвёрдае. Раскатаць яго на пасыпанай мукой дошцы, шклянкай выразаць круглыя аладкі і смажыць на патэльні з разагрэтым тлушчам.

**ГАСПАДЫНЯ**

# Зорка

## старонка для дзяцей

**Максім Багдановіч**

### ***

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
Ціха з заснуўшых палян

Плыў угару і знікаў,
Быццам дым сіняваты з кадзіла,
Рэдкі, правідны туман;

Неба ўсю глыб ажывіўшы,
Патроху праз цемнь выглядалі
Зорак дрыжачых вянкі;

Конікі суха звінелі;
Шырэй разліваліся хвалі
Цёмнай, люстранай ракі;

Пала раса; у палёх
Загарэліся пацеркі мілых
Жоўта-чырвоных агнёў...

Час, калі трэба журыцца
Душою на свежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.





*Сябры - Аля і Рыжык.* **Фота М. Ваўранюка.**

## НАРАДЗІЛАСЯ СЯБРОЎСТВА

Аля Красоўская з Мінска крыху шкадавала, што не пабачыла Варшавы. Але ў Белавежы таксама было вельмі цікава. А ўжо найбольш спадабаліся зубры - волаты пушчы, іх Аля бачыла ў запаведніку.

Аля ўвогуле вельмі любіць звяроў. За той тыдзень, калі жыла ў нас, пасябравала з нашым сабачкам Рыжыкам. Хадзіла з ім на шпацыры, бавілася з ім, карміла яго. Рыжык таксама яе вельмі палюбіў, вітаў ужо на парозе, ускокваў на калені і стараўся сваім цёпленькім язычком палізаць нос або вушка Алі. Гэта на яго мове абазначае самыя сардэчныя пачуцці. Калі Аля ад'язджала дадому, Рыжык разам з намі праводзіў яе да аўтобуса.

Аля жыве і вучыцца ў сталіцы Беларусі. У наш Бельск прыехала з групай сваіх аднагодкаў. Мінскія дзеці жылі ў сваіх сяброў у Бельску, Храбалах і Чыжах. Пазнаёміліся з дзецьмі з Беласточчыны яшчэ зімою, калі сталіцу Беларусі наведалі пераможцы конкурсаў дзіцячай песні і школьных тэатральных калектываў.

Мінскія дзеці таксама не хацелі быць горшымі - стараліся паказацца! Для сваіх сяброў і іхніх бацькоў падрыхтавалі мастацкую частку: спявалі песні, дэкламавалі вершы. А пасля любілі патанцаваць на дыскатэцы. Ды хто не любіць? Праўда?

Калі мы развіталіся з Аляй, ля аўтобуса мітусіўся вялікі натоўп людзей. Цэлыя сем'і праводзілі сваіх новых знаёмых, якія сталі ўжо вельмі блізкія. У вачах круціліся слёзы. Дзеці развіталіся, гаварылі: да пабачэння. І я ўпэўнены, што яны неўзабаве пабачацца. У Бельску, або ў Мінску.

**Мікола Ваўранюк**

***************************************************************************




У адной вёсцы жыў селянін з жонкай. Жылі яны бедна: спалі на саломе, хадзілі ў старой вопратцы, заўсёды былі галодныя.

Неяк аднойчы вясною ў беднага селяніна не засталося ні зярняці. Пайшоў ён да багатага суседа пазычыць хлеба. Не пазычыў багацей. Вырашыў тады бядняк прадаць адзінае цяля, каб як-небудзь перабіцца да новага ўраджаю.

Павёў селянін цяля на кірмаш. Ішоў-ішоў - стаміўся да смерці. Убачыў ля дарогі вярбу, прысеў адпачыць. Вярба была старая, засохлая. Вецер гнуў яе на ўсе бакі, і яна жаласна скрыпела і кланялася. Бачыць мужык, што вярба яму кланяецца, і таксама пакланіўся дрэву. Вярба ў адказ новы паклон да зямлі адвесіла. Здзівіўся селянін - чаму гэта вярба яму паклоны б'е? Ніхто яму ніколі не кланяўся.

„Бач, дурная якая, не разумее, што я не пан!" - падумаў мужык і жартам спытаў:

- Ну, чаго кланяешся? Цялушка, ці што, спадабалася?

І раптам вярба нахілілася яшчэ больш, яшчэ жаласней заскрыпела, нібы гаварыла: „Так-так..."

- Што ж, я магу прадаць, калі заплоціш як след. - І назваў цану такую вялікую, за якую і не спадзяваўся прадаць цяля на кірмашы.

У гэты час вецер забушаваў на ўсю сілу, і вярба нахілілася ледзь не да самай зямлі.

„Ну і цуда! - падумаў мужык. - Згодна, значыць". Прывязаў бядняк цяля да дрэва і пытае:

- А грошы калі аддасі?

Нахілілася вярба, сярдзіта зашумела.

„Відаць, не мае зараз грошай... Няхай, загляну заўтра".

Вярнуўся селянін дамоў і кажа жонцы:

- Удала прадаў я цяля: вярба па дарозе купіла, добрую цану дала.

- Патрэбна вярбе тваё цяля, як пеўню лапці. Ніколі я не чула, каб вербы цялят куплялі, - адказала жонка.

Назаўтра раніцай, яшчэ на досвітку, устаў мужык, засунуў за папругу сякеру і пайшоў з прыдарожнай вярбы грошы сыскваць.

- Добры дзень, пані вярба! - прывітаўся селянін. - Ну, маеш сёння грошы?

Надвор'е было ціхае. Вярба стаіць - не зварухнецца.

Злосць разабрала мужыка. Выхапіў ён сякеру ды секануў з-за пляча па дрэве. Трухлявы камель раскалоўся, і раптам з яго пасыпаліся грошы. Ды не медзякі, а чыстае золата. Відаць, хтосьці скарб схаваў у дупле ды так і не забраў.

Спужаўся мужык, не можа слова вымавіць.

- Бач, справядлівая ты, вярба! - прагаварыў ён нарэшце. - Дарэмна пасек я цябе.

Сабраў мужык золата, схаваў за пазуху, у кішэні, у шапку. Як убачыла жонка столькі грошай, дык аж ахнула ад здзіўлення.

На другі дзень мужык з жонкай наладзілі ў вёсцы вечарынку. Прыйшоў і сквапны багацей. Ён ніяк не мог зразумець, адкуль у бедняка ўзяліся грошы, каб усю вёску частаваць.

Мужык свайго шчасця не хаваў - усім расказаў, як ён прадаў цяля вярбе і як тая чыстым золатам расплацілася.

„Дык вось што яно! - падумаў багацей. - Ну, я разумнейшы буду: не адну, а тры цялушкі да сухіх вербаў прывяжу, кучу золата буду мець, яшчэ цялят накупляю, да другіх вербаў папрывязваю і стану багацейшым за самога караля". Яшчэ да світання пайшоў багацей на вялікую дарогу, нагледзеў тры вярбы, якія былі сушэйшыя, і да кожнай цяля прывязаў.

Прыходзіць на другую раніцу - ні цялят, ні грошай. Толькі абгрызеныя косці ды капыты валяюцца.

Са злосці пасек ён усе дрэвы і паваloкся дамоў.

Так быў пакараны багацей за сваю сквапнасць і дурноту.

# ЛІПЕНЬ

Ліпень - самы гарачы месяц. Вядома - сярэдзіна лета. Слепіць, пячэ гарачае сонца. Лёгкі ветрык выгінаецца хваляй па нівах. Ён шамаціць каленцамі жыта, шэпча нешта знаёмае, ласкавае. Мяккі ветрык, насычаны цеплынёй і пахам спелага жыта. У высокім ясным небе далей звініць жаўрук.

У ліпені даспяваюць ягады - чарніцы, суніцы /пазёмкі/, маліна, парэчкі, цвіце ліпа - адсюль і назва месяца. Пчолы напаўняюць соты духмяным ліпавым мёдам.

Некаторыя птушкі, у тым ліку ластаўкі, гадуюць ужо другі вывадак дзяцей.

Пачынаецца раздолле для аматараў грыбоў, асабліва пасля цёплых дажджоў.

Сушыцца на лугах сена. Пад канец месяца людзі выходзяць на жніво.

/Ц/.

Беларускія гульні

# Свінка

АПІСАННЕ ГУЛЬНІ: выбіраецца водзячы. У цэнтры нарысаванага круга выкопваецца яма-хлеў, побач з якім кладзецца мяч /свінка/. Дзеці становяцца за лінію круга і прыгаворваюць:

- Куба - куба - кубака, гонім свінку да хляўка!

Пасля гэтых слоў водзячы палкай ці нагой адкідвае свінку як мага далей убок. Усе бягуць да свінкі, перакідваюць яе адзін аднаму нагамі і спрабуюць загнаць у хлявок. Водзячы перашкаджае ім і выкідвае свінку з круга. Калі дзецям удаецца закінуць свінку ў хлеў, выбіраецца новы водзячы, гульня працягваецца.

ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ: дзеці не павінны кранаць мяч рукамі; водзячы не мае права выходзіць за межы круга.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### УЖО НІЧОГА СТРАШНАГА

- Юрка, адыйдзі ад тэлевізара, гэты фільм нельга дзецям глядзець!
- Мама, яны ўжо пацалаваліся.

### УСЯРОЎНА

Сям'я збіраецца ў кінатэатр.

Маці доўга прыбіраецца ля люстэрка.

- Мама, - не вытрымоўвае маленькі сынок, - не фарбуйся. Там усяроўна святло выключаюць!

### НЕСПАДЗЯВАНКА

- Перагарнуў нядаўна я сынаў дзённік і ледзь не страціў прытомнасць!
- Што - шмат двоек нахапаў?

- Ды не, аказваецца, ён ужо ў чацвёртым класе вучыцца!

### НЯХАЙ

- Тата, наш Коля выпадкова выпіў бензін і цяпер гойсае па двары, быццам заведзены!
- Няхай! Бензін закончыцца, і ён спыніцца.

### НЯЎЖО ІМПАРТ?

- Мама, купі браціка, - звяртаецца дзяўчынка да маці. - Куплю, куплю, - адказвае заклапочаная маці, - пачакай толькі трошкі, бо за хлопчыкамі вялікая чарга.
- А што - іх таксама з-за мяжы прывозяць?

### ВЕТЛІВЫ СТАСІК

- Мамачка, - расказвае Стасік дома, - сёння ў аўтобусе я выпадкова наступіў нейкай цётцы на нагу. Але ветліва папрасіў прабачэння, і яна, усміхнуўшыся, пачаставала мяне цукеркаю.
- І ты падзякаваў ёй, сынку, за цукерку?
- Так, падзякаваў і наступіў ёй на другую нагу...

З украінскай пераклаў

В. Бабей

Авяр'ян Дзеружынскі

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Ты расы
Сама чыстай чысцей,
Ты крыніц
Самых звонкіх званчэй,
Наша простае,
Шчырае слова -
Беларуская родная мова.

Нізашто лепш
Не скажаш ніколі,
Лепш не выкажаш
Радасці, болю
У адзіным,
Адным толькі слове,
Як на мове сваёй,
Любай мове.

Тут і шум
Хваль блакітных азёраў,
Тут і гоман
Адвечнага бору,
Спеў салоўкі,
Куванне зязюлі,
Голас сэрца
Любімай матулі.

А ці будзеш так
Сум сумаваць,
Ці вясёлую песню
Спяваць,
А ці рэха будзіць
У дуброве,
Як на звыклай,
Не матчынай мове?!

Ты расы
Самай чыстай чысцей,
Ты крыніц
Самых звонкіх званчэй,
Наша вечнае,
Шчырае слова -
Беларуская родная мова.

********************************************************************

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:




Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.




**PIĄTEK, 19.07.1991 r.**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie - Muzyczna krzyżówka
9.40 "Nowe przygody He-Man" - serial anim. USA
10.00 "Szkoła dla rodziców"
10.25 "Janosik" (3) - serial TP
11.10 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenburgów" (5) - serial niem.
18.25 Studio Lato
19.00 Od "Kapitału" do kapitału
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Miasteczko Twin Peaks" (12) - serial USA
20.55 Zespół "Zapis" przedstawia ...
21.35 XVIII Ogólnopolskie Spotkania Zamkowe - "Śpiewamy poezję" - Koncert laureatów
22.20 Wiadomości wieczorne
22.40 Dziś w Senacie
22.55 "Dziedzictwo Guldenburgów" (5) wersja oryginalna
23.20 BBC - World Service
23.55 Noc z gwiazdami

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. angielski (10)
8.40 "W labiryncie" - serial TP
9.30 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 "Ameryka w moich oczach" - rep.
16.45 Powitanie
17.00 "Opowieść o mieście" - "Secesja" - rep.
17.30 "Cudowne lata" (17)
18.00 - 21.30 Program regionalny
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Nie zawsze musi być kawior" (2) - serial niem.
22.50 Jazzowy klub "2"
23.50 CNN

**SOBOTA, 20.07.1991 r.**

PROGRAM I

7.00 "W sobotę rano"
7.45 "Tydzień na działce"
8.15 "Piłkarska kadra czeka"
8.35 "Ziarno"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 "Walt Disney przedstawia"
10.25 "Na zdrowie"
10.45 "Żołnierz nieznany" - wojskowy program dok.
11.10 "Od fujarki do organów" - film dok. prod. belg.
11.50 "Z Polski rodem"
12.20 Koszykówka zawodowa NBA
13.50 "Czasy katedr" (6) - serial dok. prod. franc.
14.45 "Niemcy". "Bez muru 1990" (3-ost.)
15.45 "Telefoniada"
16.30 "Opoka" - pr. Red. Katolickiej
16.45 "Rokendroler" - mag. muz. rock.
17.15 Teleexpress
17.30 "Loża" - mag. teatralny
18.00 Finał MŚ par na żużlu - Poznań'91
18.55 "Z kamerą wśród zwierząt"
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Houston - legenda Texasu" (1) - film fab. USA
21.25 Sportowa sobota
21.40 "Satchmo" - film dok. o L. Amstrongu
23.05 Wiadomości wieczorne
23.30 "Posag" - film fab. prod. ang.-niem.-włoskiej

PROGRAM II

7.25 Powtórka z historii - pr. dok.
7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 "Kapitan Planeta i Planetarianie (19)
8.35 Mag. TV śniadaniowej
9.15 "Mądrej głowie" - program W. Manna i K. Materny
9.45 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 Mag. TV śniadaniowej
10.40 "Sekretny dziennik Adriana Mole'a lat 13 i 3/4" (7) - serial ang.
11.05 "Tacy sami" - pr. w j. migowym
11.25 "Czapka dla skina" - rep.
12.25 "Dookoła świata": "Rodowód Aborygenów"
12.55 Karnawał Schumanna - gra Jerzy Romaniuk
13.25 "Mangusty, czyli w jedności siła" (2) - serial dok. prod. ang.
13.55 "Video-Junior"
14.25 "Ze wszystkich stron" - Berlin-Berlin
14.55 Program dnia
15.00 "Zezem" - Jan Tadeusz Stanisławski
15.30 "Santa Barbara"
17.00 "Studio Tajemnic"
17.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
18.00 Program lokalny
18.30 Doczekać końca dnia, czyli kabaret "De-ka-de"
19.00 "Rzeczywistość Magdaleny Abakanowicz" - reportaż
19.30 "Galeria 38 milionów" - Artyści dzieciom
20.00 Finał MŚ par na żużlu - Poznań'91
21.00 "Hale i Pace" - pr. rozr.
21.30 Panorama dnia
21.45 "Bez znieczulenia"
22.00 Akatyst ku czci Bogurodzicy
22.05 "Człowiek bez Ojczyzny" - film fab. USA
23.20 CNN

**NIEDZIELA, 21.07.1991 r.**

PROGRAM I

7.00 "Witamy o siódmej"
7.30 "Kraj za miastem"
7.55 "Po gospodarsku"
8.10 "Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 "D'Arby O'Gill i krasnoludki" - film USA
10.30 "Przygody roślin" (6) - serial dok. franc.
11.00 "Notowania"
11.25 "Kukliński" - pr. dok.
11.50 Koncert życzeń
12.20 "Circom Regionale prezentuje"
12.50 Magazyn "Morze"
13.10 World Net na antenie "1"
14.10 Alfabet Komediantów
14.50 "Tak było w Olsztynie" - rep. z Olsztyńskich Spotkań Zamkowych "Śpiewamy poezję"
15.25 "I co dalej" - teleturniej
15.45 "Telewizjer"
16.05 "Warszawa da się lubić" - widowisko muzyczne
16.45 Film dok.
17.15 Teleexpress
17.35 "Smak życia"
18.15 "Wokół wielkiej sceny"
19.00 Wieczorynka
19.30 Wiadomości
20.05 "Miliarderka" (3-ost.)
21.30 "Siedem dni - świat"
22.00 Sportowa niedziela
22.20 Wiadomości wieczorne
22.40 "Rewizja nadzwyczajna"

PROGRAM II

7.55 "Przegląd tygodnia" (dla niesłyszących)
8.30 Film dla niesłyszących: "Miliarderka" (3-ost.)
9.50 Program dnia
10.00 CNN
10.10 "Jutro poniedziałek"
10.30 Program lokalny
11.00 Wybrańcy Melpomeny - Józef Węgrzyn
11.30 "Wspólnota w kulturze" - Ojcowizna
12.00 "Od mikstury do pigułki"
12.30 "Express Dimanche"
12.45 Gość "Dwójki" - Tadeusz Łomnicki
13.00 Polska Kronika Filmowa
13.10 100 pytań do ...
13.50 Henryk Debich proponuje - Bogusław Morka
14.10 "Przyłbice i kaptury" (4)
15.05 Jerzy Waldorff - Połowy na rzece wspomnień (8)
15.35 Hare Kriszna
16.00 "Wędrówki ludów nad Pacyfikiem (6) - serial dok. prod. austral.
16.55 Program dnia
17.00 Studio Sport
17.30 "Bliżej świata"
18.30 Dwie noce z Piwnicą pod Baranami - czyli spełnione marzenia Piotra Skrzyneckiego - film dok.
19.00 "Wydarzenie tygodnia"
19.30 Galeria "2"
20.00 Koncert gwiazd XXX Festiwalu Moniuszkowskiego w Kudowie Zdroju
21.00 Recital Jolanty Arnal
21.30 Panorama dnia
21.45 "Eden utracony" (1) - serial ang.
22.35 Wspomnienie o Jerzym Dobrowolskim
23.30 CNN

**PONIEDZIAŁEK, 22.07.1991 r.**

PROGRAM I

16.55 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenburgów" (6) - serial niem.
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV - Spektakl na bis: M. Hemar - "Firma"
21.35 "Szopka w grajdole" - widowisko rozrywkowe
22.35 Wiadomości sportowe
22.55 "Zawsze po 21-szej"
23.35 "Dziedzictwo Guldenburgów" (6)
24.00 BBC - World Service

PROGRAM II

16.45 Powitanie
17.00 Debiuty - Opole'91 - pr.public.
17.30 "Cudowne lata"
18.00 Programy lokalne
18.30 Przegląd Kronik Filmowych
19.00 "Ojczyzna-polszczyzna"
19.15 "Za kierownicą"
19.25 Zapraszamy do "Dwójki"
19.30 Śpiewa Maciej Witkiewicz
20.00 Pół godziny z "Nowoczesnością"
20.30 "Bez emocji" - O kulturze politycznej
21.20 "Maraton trzeźwości"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Jarosław Mądry" (2) - film radz.
23.10 "Rozmowy o cierpieniu"
23.25 CNN

**WTOREK, 23.07.1991 r.**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie najmłodszych ze smokiem
9.35 "Przygody misia Ruxpina"
10.00 "To się może przydać"
10.25 "Matyas Sandor" (4) - serial węg.-franc.
11.25 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenburgów" (7)
18.25 Studio Lato
18.55 W Sejmie i Senacie
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Powroty" - film fab. pol.
21.05 Zespół publicystyki "Zapis" przedstawia "Petenci"
21.35 "Umieć żyć" - rozmowa z Marią Nurowską
21.50 "Telemuzak"
22.30 Wiadomości wieczorne
22.50 "Dziedzictwo Guldenburgów" (7)
23.15 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. ang. (11)
8.40 "Santa Barbara"
9.25 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN
10.15 "Ameryka w moich oczach" (9) - reportaż
16.45 Powitanie
17.00 Archiwum Neptuna - Powrót na Falklandy - rep.
17.30 "Cudowne lata"
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna
18.50 "Seans filmowy"
19.30 "W teatrze jednego aktora" - film dok. o Andrzeju Stopce
20.00 "Siódemka" w "Dwójce"
21.00 Wywiady I. Dziedzic
21.20 "Magazyn przechodnia"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 "Sherlock Holmes - w obliczu śmierci" (2) - film fab. prod. ang.
23.05 CNN

**ŚRODA, 24.07.1991 r.**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Rekordy Neptuna - teleturniej
9.35 "Safari" - serial czech.
10.00 "Przyjemne z pożytecznym"
10.25 "Dynastia" - serial USA
11.15 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenburgów" (8)
18.25 Studio Lato
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Dynastia" - serial USA
20.55 Kabaret Starszych Panów
22.00 Studio Sport - Super Puchar w piłce nożnej
22.50 Wiadomości wieczorne
23.10 "ART" - magazyn
23.30 "Dziedzictwo Guldenburgów" (8)
23.55 BBC - World Sevice

ROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN - Headline News
8.10 J. ang. (12)
8.40 "W labiryncie"
9.40 Mag. TV śniadaniowej
10.00 CNN - Headline News
10.15 "Ameryka w moich oczach" - reportaż
16.45 Powitanie
17.00 Magazyn ekologiczny
17.30 "Cudowne lata" (20)
18.00 Program lokalny
18.30 "M.A.S.H." - serial USA
19.00 "Kadr" - teleturniej filmowy
19.30 Koncert Muzyki Dawnej
20.00 Cały świat gra komedię
20.40 Moje książki - prof. Henryk Markiewicz
21.00 Camerata 2 przedstawia - "Muzyka w Łodzi"
21.30 Panorama dnia
21.45 Przegląd Sejmowy
22.00 "Dziewczyna z Mazur" (4) - serial TP
22.55 Sport
23.05 "Telewizja nocą"
23.50 CNN

**CZWARTEK, 25.07.1991 r.**

PROGRAM I

8.00 "Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 "Janka" (9 i 10) - serial
10.10 "Po sześćdziesiątce" - mag. dla wszystkich
10.30 "Van der Valk" (3) - serial ang.
12.10 Aktualności telegazety
17.00 Studio Lato
17.15 Teleexpress
17.30 Studio Lato
18.00 "Dziedzictwo Guldenburgów" (9)
18.25 Studio Lato
18.50 Magazyn katolicki
19.15 Dobranoc
19.30 Wiadomości
20.05 "Van der Valk" (3)
21.50 Goście Andrzeja Zarębskiego
22.05 "Pegaz"
22.35 Wiadomości wieczorne
22.55 Forum'91
23.25 "Dziedzictwo Guldenburgów" (9)
0.05 BBC - World Service

PROGRAM II

7.55 Powitanie
8.00 CNN
8.10 J. ang. (13)
8.40 "Santa Barbara"
9.25 Mag. TV śniadaniowej - teleklinika dr. A. Kaszpirowskiego
10.00 CNN
16.45 Powitanie
17.00 Teleklinika dr. A. Kaszpirowskiego
17.30 "Cudowne lata"
18.00 Program lokalny
18.30 "Pod wspólnym dachem" (4)
19.00 Magazyn "102"
19.30 "Znaki czasu" - film dok.
20.00 Studio Sport
21.00 "Ekspres reporterów"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 100-lecie Carnegie Hall (1)
23.25 CNN

**СЛУХАЙЦЕ БЕЛАСТОЦКАЕ РАДЫЁ**

**На ультракароткіх хвалях (УКФ -72,8 Мгц у Беластоку і 72,68 Мгц у Сувалках) - штодзень ад гадз.5.30.**

**Перадачы на беларускай мове:**

**-„Пад знакам Пагоні"-штодзень у 8.50 і 18.45.**

**-„Духоўныя сустрэчы"- у суботу ў 8.50.**

**-„Перад выхадам у царкву"-у нядзелю ў 7.30**

**-„Беларускі радыёчасопіс"- у нядзелю ў 8.30.**

**-„Для школы і для дому"-у сераду ў 8.50. і 18.45.**

**-„Беларускі канцэрт пажаданняў" (платны)-у суботу ў 18.45.**

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

***

Ні парадку, ні крыку,
а толькі крадуць і цягаюць,
ні вайны, ні пакутаў,
а людзям не трэба зямлі -
гэта злодзеі ходзяць
і бедны народ падбіваюць!
Панапісвалі вершаў,
фальваркі бацькоў прапілі...

За гарэлкай забылі
працоўныя свой абавязак,
а кругом дармаедаў
адных напладзіў інстытут -
ім бы свінак трымаць,
а не слухаць прафесарскіх казак,
а інакш мы ўсе
перадхонем ад голаду тут!

А ў суседняй Эўропе
на густы любыя ёсць чарка,
і нікому не шкодзіць
апроч эмігрантаў ад нас -
і пры ўладзе паэты,
і неяк стаіць гаспадарка,
а тут робіш і робіш,
і нервы марнуеш, і час!






**********************

## З НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЫ

Як не цягне на спачын,
А мужчынскі гонар ляснуў,
Пэўны сродак ёсць адзін -
Пантакрын
З рагоў уласных.

*Рыгор Барадулін*

## МІНІ-КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 8/ прымяненне рэнтгенаўскіх прамянёў з мэтай лячэння, 9/ спецыяльны аўтамабіль, абсталяваны цыстэрнай, помпай, фільтрам і іншымі прыстасаваннямі для запраўкі аўтамабіляў, самалётаў, танкаў вадкім палівам.

**Уніз:** 1/ у геадэзіі - спецыяльны знак для абазначэння і замацавання на мясцовасці пункта з вызначанай вышынёй, 2/ палітычная паліцыя ў былой ГДР, 3/ чуць, злёгку, нямнога - прыслоўе і злучнік, 4/ млекакормячая жывёліна, якая па будове свайго цела з'яўляецца самай блізкай да чалавека, 5/ д'ябал, злы дух, нячыстая сіла, 6/ заразная хвароба звычайна на скуры галавы пад валасамі, на якой з'яўляюцца струпы і рубцы, 7/ мінерал жоўтага колеру ў выглядзе зярністых мас з металічным бляскам, серны або жалезны калчадан.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў н-ры 23.**

**Упоперак:** адміністратарка, маторабудаванне.

**Уніз:** ідэал, лімон, сілач, струк, саган, салат, ікона.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Ірыней Красоўскі з Бельска-Падляшскага і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.



## А ІНШАГА ГЛОБУСА Ў ВАС НЯМА?

Яфім Цыгель вязе прадаваць на базар тры тузіны штаноў. На станцыі развітваецца з ім жонка:

- Фімачка, дай Бог, каб ты дадому без портак вярнуўся!

***

Следчы дапытвае Фішмана, які яўна жыве не на свае сродкі.
- Дзе вы бераце грошы?
- У тумбачцы.
- А як яны пападаюць у тумбачку?
- Іх туды жонка кладзе.
- А адкуль бярэ грошы ваша жонка?
- Я ёй даю.
- А вы адкуль бераце?
- Я ж гаварыў: у тумбачцы.

***

У АВІРы:
- У сваёй заяве вы не напісалі ў якую краіну хочаце эміграваць.
- Я яшчэ не вырашыў.
- Вось вам глобус, рашайце.
- Там холадна, там горача, там горы, там вайна, там мокра, там антысемітызм... Скажыце, а іншага глобуса ў вас няма?

***

- Гэта праўда, што ваш касір уцёк, захапіўшы з сабой грошы і вашу дачку ў дадатак?
- Так, але ён пакінуў запіску, у якой прысягнуў усё вярнуць.
- І вы яму верыце?
- Чаму ж не? Дачку ён ужо вярнуў.

***

- Марк Самойлавіч, наша прадпрыемства прадае акцыі па 100 рублёў за штуку. Атрымаем даход - тады вам 10 працэнтаў. Гэта карысна.
- А калі прадпрыемства абанкруціцца, то хто мне верне грошы?
- Як хто? Дзяржава!
- А калі абанкруціцца дзяржава?
- Няўжо дзеля такога выпадку пашкадуеце сотні?

**„Блін"**




*- Не хачу „Калыханку", хачу па відзіку фільмы жахаў.* Малюнак В. Ключкіна.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.**

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

**3750. Мікалай Мацкевіч /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3751. Уладзімір Мацкевіч /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**
**3752. Пётр Герасімюк /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3753. Андрэй Селеванюк /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3754. Луцыя Кердалевіч /Гайнаўка/ - 10.000 зл.**
**3755. Віталій Міранчук /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3756. Пётр Кананюк /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3757. Ян Тэляшэўскі /Гайнаўка/ - 10.000 зл.**
**3758. Валянціна Болбат /Сахарава/ - 20.000 зл.**
**3759. Аляксей Мароз /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3760. Уладзіслаў Раманюк /Махнатае/ - 10.000 зл.**
**3761. Ян Шумскі /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**
**3762. Сцяпан Гурын /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**
**3763. Уладзімір Тыханюк /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3764. Пётр Сурэль /Беласток/ - 10.000 зл.**
**3765. Антон Астроўскі /Гайнаўка/ - 10.000 зл.**
**3766. Галіна Грамадская /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**
**3767. Ян Леўчук /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3768. Марыя Кісляк /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3769. Пётр Кавальчук /Гайнаўка/ - 5.000 зл.**
**3770. Уладзімір Прыступюк /Гайнаўка/ - 10.000 зл.**
**3771. Уладзімір Астапкевіч /Дубічы-Царк./ - 5.000 зл.**
**3772. Уладзімір і Анна Скепка /Гайнаўка/ - 10.000 зл.**
**3773. Рыгор Тамашук /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**
**3774. Надзея Лясота /Гайнаўка/ - 20.000 зл.**

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 30-16.**

**************************************************************************





„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- lipiec - 8.000 zł.
- sierpień - 8.000 zł
Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.